PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 10 (2234) Год XLIV Беласток 7 сакавіка 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Бізнесмен з-пад Ваўкавыска

Яўген Міpановіч

У суботу, на запусты, прыйшлося мне пабываць у роднай вёсцы Алексічах. Падаў мокры снег, надвор'е прымушала сядзець у хаце. На вуліцы апусцелай вёскі часцей можна было пабачыць сабаку з падабраным хвастом чым чалавека. Змяркала ўжо, калі па прыкрытай грубым пластом снегу вуліцы прамчаўся стары „Опель" з беларускай рэгістрацыяй. Пры канцы вёскі шафёр павярнуў аўтамабіль назад і пачаў сігналіць клаксанам. Гэтыя гукі ўсім вяскоўцам зразумелыя. Калі ў некага вычарпаліся хатнія запасы гарэлкі, тады ёсць нагода іх папоўніць. Таргавацца ніхто не мае нават ахвоты. Беларуская гарэлка, не горшай якасці за польскую, а прытым амаль утрая таннейшая. Таму сорамна нават перад суседзямі прапанаваць 8 злотаў за пляшку „Пшанічнай", калі пастаўшчык з Беларусі хоча яе аддаць залатоўку даражэй.

Гэтым разам прыезд замежнага бізнесмена выклікаў вялікае зацікаўленне жыхароў вёскі, бо ўжо два тыдні ніхто з Беларусі сюды не заязджаў. Спачатку беларускія бізнесмены баяліся сялянскіх блакад на дарогах, а пасля да падарожжа знеахвочваў штодзённы буйны снегапад. Таму малады чалавек з-пад Ваўкавыска на працягу дзесяці мінут пазбыўся ў Алексічах усяе „Пшанічнай", якую ўмела прыхаваў ад мытнікаў у сваім „Опелі". Разам, як сам сказаў, у навакольных вёсках і Алексічах прадаў 34 бутэлькі вытворчасці Мінскага спіртзавода. Быў у яго яшчэ і спірт, трошкі даражэйшы за мінеральную ваду ў польскіх крамах, але аматараў на гэты прадукт не было. Таму прадаўшчык, каб даказаць яго прыгоднасць для харчовых мэт, выцягнуў з аўтамабіля кілішак, наліў сабе і выпіў. Пасля прапанаваў праверыць якасць беларускага спірту сялянам. Дэгустацыя працягвалася амаль паўгадзіны. Госць з-пад Ваўкавыска гаварыў на дыялекце беларускай мовы падобным да таго, якім карыстаюцца жыхары Заблудаўскай гміны. Таму слухаючы суродзіча з Рэспублікі Беларусь неяк не заўважалася мокрага снегападу. Нічым не фальшаваны спірт разаграваў лепш чым хатняя печка.

Малады чалавек, які завітаў у Алексічы, жыве недзе пад Ваўкавыскам. Яго бацькі працуюць калгаснікамі і зарабляюць каля 10 долараў у месяц, жонка, настаўніца, атрымлівае каля 30 долараў. Сам ён нідзе не працуе. Пару гадоў таму дайшоў ён да вываду, што не будзе так жыць як бацькі. Умовы для бізнесу былі спрыяльныя. Прыблізна раз у тыдзень прыязджаў у Польшчу на гэтым жа „Опелі", толькі што з прычэпкай. Раз купляў тут гарнітур мэблі, іншым разам — 10 мяшкоў яблык ці цыбулі. Дастаткова было давезці ўсё гэтае да расійскай мяжы і пры-

[працяг ☞ 4]



Гурыноўшчына.

## Залатыя зубы за джынсы

Ганна Кандрацюк

Першае сутыкненне з пушчанскай вёскай Старыною, што няцэлы кіламетр ад мяжы з Беларуссю, выклікае захапленне. За акном асяродка адпачынку, які наладжаны ў апусцелай школе-„тысячагодцы", красуюцца стройныя елкі і дубы. Ноччу чуваць тут гоман пушчанскіх птушак і звяроў, шум дрэў і адчуваецца моц, што плыве з зямлі. Ураджанні папоўніла навальніца з маланкай, што прайшла ноччу з 4 на 5 лютага. Пасля яе неба пакрылася белымі хмарамі і выплыў месяц у поўні. Хацелася пісаць вершы!

**Старая — Старына**

Ёсць дзве Старыны: Новая Старына і Старая Старына. І Старая і Новая Старына, як усе прыпушчанскія вёскі Дубіцкай гміны, састарэлыя.

Шпацыруючы ў белы дзень вуліцамі Старыны, зрэдку пабачыце яе жыхароў, самым звычайным успамінам застанецца старэнькая бабуля ў акне драўлянага доміка.

— А што зімой рабіць? — кажуць пенсіянеркі ля аўтакрамы „Жук", што два разы ў дзень прыязджае ў вёску.

— Напаліш у печы і сядзіш сабе, тэлевізар глядзіш. Летам жыццё другое, па ягады, грыбы ў лес пойдзеш, грошы заробіш, — ласкава адказваюць бабулі.

— Летам унукі на вакацыі прыедуць, — дадаюць. — Чалавек на дваццаць гадоў памаладзее!

**Найбольш бяды са звярынай**

Кіламетр ад Старыны знаходзіцца Гурны Груд або, як кажуць тутэйшыя людзі, Гурыноўшчына. Вёсачка распалажана на вялізнай паляне, сілком адабранай пушчы.

[працяг ☞ 4]



Спадар Аксантовіч расказвае маладым рэпарцёрам пра нялёгкае жыццё.

## Лячыць, ці хай жыве?

У мінскіх бальніцах не хапае амаль усяго: самых падставовых медыкаментаў, перавязачных матэрыялаў, харчавання і санітарных сродкаў. Адзінае, што забяспечваюць, гэта кваліфікаваны меднагляд і хірургічную дапамогу. Але каб эфектыўна лячыцца трэба спадзявацца на знаёмых і сяброў, якія раздабудуць патрэбныя лякарствы, таму большасць студэнтаў з Беласточчыны стараецца лячыцца ў Польшчы падчас побыту дома.

[медабслугоўванне ☞ 2]

## Рукадзелле Гайнаўшчыны

Зіновій Галёнка арандуе ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы памяшканне, у якім адкрыў кітайскі рэстаран „Белая ружа". Нядаўна зняў яшчэ адну залу і ўжо паспеў наладзіць там дзве выстаўкі: жывапісу Алега Кабзара і малюнкаў гайнаўскіх дзяцей. 21 лютага ў гэтай зале адкрылася чарговая выстаўка.

[новая ініцыятыва ☞ 3]

## Рамонт Прыродазнаўчага музея

Паўтара года будзем перабудоўваць будынак, а пасля недзе два гады будзем арганізаваць выстаўку. З сённяшняга будынка застанецца толькі частка скляпення, калоны. Зменены будуць дах і сцены, паявіцца больш драўляных элементаў, пабудуецца вежа, а там дзе зараз фантан, паўстане канферэнц-зала на 160 асоб.

[планы ☞ 3]

## Цiхія браты

А якім народам уяўляюцца прафесару Вацлаву Урбану беларусы? Адказам на гэтае пытанне можа паслужыць загаловак прысвечанага нашай нацыі раздзела: „Ціхія браты або Беларуска-польскія адносіны". У самым яго пачатку аўтар сцвярджае, што беларуская нацыя толькі што ствараецца, а ў мінулым яе члены былі пакрысе літоўцамі, палякамі, рускімі і тутэйшымі.

[меркаванні ☞ 4]

## Сэрца на далоні

Калектыў „Прымакі" быў створаны тры гады таму; падзагаловак: Юрка і Марэк. Дзе толькі яны не спявалі! З'ездзілі Беласточчыну, былі ў Мазыры на Беларусі, дзе прымалі іх вельмі гасцінна, і яшчэ многа дзе.

[прэзентацыя ☞ 8]

# Беларусь — беларусы

## Дабраліся і да Беласточчыны

19 лютага жыхар памежнага з Польшчай мястэчка Свіслач Віктар Трэшчановіч атрымаў афіцыйнае папярэджанне ад мясцовай пракуратуры за... заклік да беларусаў Беласточчыны прыняць удзел у арганізацыі выбараў прэзідэнта Беларусі. Як вядома, гэтыя выбары 16 мая, згодна з Канстытуцыяй 1994 года, збіраецца правесці беларуская апазіцыя.

Калі раніцай 19 лютага да Віктара Трэшчановіча патэлефанавалі са Свіслацкай пракуратуры і ветліва запрасілі на размову, у яго ўзніклі розныя здагадкі пра прычыну гэтага выкліку, але нават самыя фантастычныя з іх перабольшыла сустрэча з пракурорам Свіслацкага раёна спадаром Шэсцікам. Апошні азнаёміў з дакументам, у якім сцвярджалася, што грамадзянін Трэшчановіч 31 студзеня ў 9 гадзін 30 хвілін даў інтэрв'ю Беластоцкаму тэлебачанню, у якім заклікаў беларускую дыяспару Польшчы прыняць удзел у арганізацыі выбараў прэзідэнта Беларусі. Гэтым ён парушыў закон і яму выносіцца афіцыйнае папярэджанне аб адказнасці за спробу захопу ўлады.

Спадар Трэшчановіч, які 31 студзеня быў у Слоніме і ніяк не мог сустрэцца з польскімі журналістамі, пачаў патрабаваць тлумачэнняў гэтых трызненняў. Раённы пракурор адказаў, што ён нічога не ведае, а дзейнічае па распараджэнні абласной пракуратуры і бачыць бы там ёсць нават відэастужка з запісам інтэрв'ю. Віктар Трэшчановіч папрасіў даць яму копію папярэджання, але спадар Шэсцік адмовіў (хаця паводле закона не павінен быў гэтага рабіць).

Тады спадар Трэшчановіч напісаў пракурору заяву, у якой сцвердзіў, што лічыць папярэджанне чарговай правакацыяй супраць сваёй асобы, патрабуе высветліць арганізатараў гэтага паклёпу і паведаміць яму іх прозвішчы. На гэта ў яго былі ўсе падставы. Справа ў тым, што ўжо два гады як Віктар Трэшчановіч уступіў у канфлікт з старшынём Свіслацкай прэзідэнцкай „вертыкалі" Анатолем Кузьмой. Прычынай канфлікту стала тое, што спадар Трэшчановіч быў ініцыятарам аднаўлення помніка на магіле старэйшага брата нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага — Віктара, які пахаваны на свіслацкіх могілках. На адкрыццё помніка 25 кастрычніка 1997 года ў Свіслач прыехала некалькі сотняў маладых людзей з Гродна, Ліды і Мінска. Гэта вельмі не спадабалася Анатолю Кузьму. Неўзабаве ён выклікаў Віктара Трэшчановіча да сябе і паміж імі адбылася сварка, падчас якой старшыня „вертыкалі" пры сведках заявіў літаральна наступнае: „Правільна зрабілі, што павесілі Каліноўскага і ўсіх вас фашыстаў трэба вешаць". Віктар таксама ў даўгу не застаўся.

Праз некалькі дзён у яго абакралі кватэру. У паштовай скрынцы пачалі з'яўляцца запіскі з пагрозамі. Затым да хаты з вобыскам завіталі міліцыянеры, якія шукалі зброю і наркотыкі (!?). З-за ціску з боку мясцовых улад Віктар Трэшчановіч, які мае прыватнае прадпрыемства, вымушаны быў амаль спыніць свой бізнес. Але ён не здаўся. Зараз з'яўляецца актывістам партыі БСДГ, вядзе актыўную грамадскую дзейнасць.

Па запрашэнні Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь з 21 па 24 студзеня ён быў у Бельску-Падляшскім. Арганізаваны цэнтрам семінар тады шырока асвятляўся ў Беластоцкіх сродках масавай інфармацыі, у тым ліку і па тэлебачанні.

У Свіслачы добра прымаецца польскае тэлебачанне, і некаторыя знаёмыя пасля казалі Віктару, што бачылі яго. Аднак ён ніякага інтэрв'ю нікому не даваў. А на семінары пра выбары беларускага прэзідэнта нават не ўзгадвалася.

Але, магчыма, Беластоцкае тэлебачанне ў Свіслачы глядзяць не толькі знаёмыя Віктара Трэшчановіча.

**Зміцер Кісель**

## Лячыць, ці хай жыве?

Гэтыя словы з анекдота медыкаў найлепш адлюстроўваюць сітуацыю ў беларускай ахове здароўя. Ужо шмат нашых суайчыннікаў-студэнтаў, што вучацца ў суседняй краіне, пераканалася ў праўдзівасці гэтых слоў. Зараз пасля прыезду ў вышэйшых навучальных установах Беларусі трэба абавязкова зрабіць медыцынскі кантроль у студэнцкай паліклініцы. Навучэнцы Мінска павінны прайсці яго ў 33 паліклініцы, што па вуліцы Сурганава. Ветлівы ўрач для замежных студэнтаў выпіша пашпарт здароўя і дакладна растлумачыць, у якія кабінеты трэба зайсці для поўнага медагляду, але на гэтым канчаюцца добрыя ўражанні, далей чакаюць расчараванні: даўно нерамантаваны будынак паліклінікі, брудныя і цёмныя (эканомія электраэнергіі) калідоры і абыякавыя адносіны медперсаналу да пацыентаў разбураюць светлую карціну. Няведанне рускай медыцынскай тэрміналогіі прыводзіць да разгубленасці тых студэнтаў з Польшчы, якія першы раз прыйшлі ў гэту ўстанову. Амаль усе польскія пасведчанні аб здароўі тутэйшымі ўрачамі не прызнаюцца і трэба паўторна прайсці ўвесь кантроль. Добра, што ўсе нашы суайчыннікі, як навучэнцы, бясплатна застрахаваны і дома, і на Беларусі, а таму медагляд і лячэнне — дармовыя.

Найбольш эмоцый выклікае праверка крыві на ВІЧ (HIV). Многіх хвалюе, ці ў час уколу не заразяць гэтай смяротнай хваробай, бо шпрыцы не заўсёды вымаюць з упакоўкі на вачах пацыента, а адкульсьці бяруць ужо гатовымі. Гэта насцярожвае, але няма чаго хваляваць, усе шпрыцы і іголкі толькі аднаразовыя і ніколі не здарылася нічога дрэннага. А вось адносіны да гэтай хваробы зусім неадпаведныя. Да хворых СНІДам (AIDS) і з ВІЧ-інфекцыяй нават медперсанал ставіцца, як да разносчыкаў, якія абавязкова заражваюць усіх акружаючых і якіх трэба „выключыць" з грамадства. Згодна з гэтай думкай усім замежным студэнтам (свае быццам не хварэюць) абавязкова трэба падпісаць дэкларацыю, што ў выпадку выяўлення ў яго ВІЧ-інфекцыі, студэнт будзе вымушаны пакінуць вучобу ў Беларусі і вярнуцца дахаты. Але становіцца незразумелым той факт, што Беларусь збіраецца зрабіць са сваімі дзесяткамі тысяч ужо заінфекаваных грамадзян? Можа стварыць спецыяльныя канцлагеры, каб адгарадзіць іх ад „здаровага" грамадства? Гэты падыход да праблемы здаецца зусім нялюдскі і пярэчыць асноўным правам чалавека і грамадзяніна.

А што будзе, калі чалавек захварэе іншай не так страшнай хваробай? Лячэнне будзе доўгае. У бальніцах не хапае амаль усяго: самых падставовых медыкаментаў, перавязачных матэрыялаў, харчавання і санітарных сродкаў. Адзінае, што забяспечваюць, гэта кваліфікаваны меднагляд і хірургічную дапамогу. Але каб эфектыўна лячыцца трэба спадзявацца на знаёмых і сяброў, якія раздабудуць патрэбныя лякарствы і будуць сістэматычна падкормліваць хворага, бо інакш не прыйдзецца чакаць паляпшэння. Дапамога пацыенту не будзе магчымай без патрэбных медыкаментаў, а тых часта не хапае. У рэспубліцы выпускаюць толькі нешматлікія прэпараты, а купіць за мяжою няма грошай. Прыходзіцца разлічваць на гуманітарную дапамогу суседніх краін.

У такой сітуацыі большасць нашых студэнтаў стараецца лячыцца ў Польшчы падчас побыту дома. Паездкі дахаты многа каштуюць, ды і прыватныя ўрачы таксама, але здароўе найважнейшае і нельга на ім эканоміць.

**Андрэй Мароз**

## Аляксей Шыдлоўскі ў турме не скарыўся

23 лютага вызвалены з турмы актывіст Маладога фронту Аляксей Шыдлоўскі. Паўтара гады ён праседзеў у турме за тое, што распісаў сцены некалькіх дамоў у Стоўбцах антылукашэнкаўскімі лозунгамі.

Беларускія ўлады нават вызваленне з турмы могуць пераўтварыць у фарс. Шыдлоўскага выпусцілі па амністыі за два дні да сканчэння тэрміну зняволення, хаця палітвязень катэгарычна адмаўляўся ад такой „ласкі". Магчыма „датэрміновае" вызваленне было зроблена дзеля таго, каб каля турэмнай брамы не адбылася маніфестацыя сяброў Маладога фронту, якія рыхтавалі на 25 лютага ўрачыстую сустрэчу Аляксею. Хлопца сустрэлі толькі сваякі. Пасля яго прывезлі ва ўправу БНФ, дзе яго прывіталі сябры. Затым Аляксей паехаў да хаты ў Стоўбцы.

Але раніцай 25 лютага каля турмы дзе сядзеў Аляксей усё роўна адбыўся пікет Маладога фронту, у якім самы актыўны ўдзел прыняў Аляксей Шыдлоўскі. Затым ва ўправе БНФ адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная вызваленню Аляксея Шыдлоўскага і намесніка старшыні Маладога фронту Яўгена Скочкі, які якраз у гэты дзень выйшаў з турмы пасля „адсідкі" за маладзёжную акцыю „Беларусь у Еўропу", праведзеную 14 лютага.

Аляксей Шыдлоўскі сказаў журналістам, што будзе працягваць палітычную дзейнасць і ні ў якім выпадку не з'едзе з Беларусі, хаця да яго ўжо паступіла некалькі прапаноў атрымаць палітычны прытулак у адной з еўрапейскіх краін. **(зк)**

## Пасяджэнне скончылася ў пастарунку

25 лютага ў Мінску міліцыяй былі затрыманы сябры Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта Беларусі.

ЦВК сабралася на пасяджэнне з мэтай зацвердзіць спісы тэрытарыяльных выбарчых камісій. Аднак скончыць запланаваную працу сябрам камісіі па выбарах прэзідэнта не дала міліцыя.

17 удзельнікаў пасяджэння, у тым ліку старшыня ЦВК Віктар Ганчар і сакратар Барыс Гюнтар, былі затрыманы і дастаўлены ў Ленінскі аддзел міліцыі Мінска. Пратрымаўшы ў пастарунку цэлы дзень, на іх склалі пратаколы пра адміністратыўнае правапарушэнне. Сяброў ЦВК абвінавачваюць у правядзенні незаконнага сходу. Ім пагражае арышт ад 3 да 15 сутак або штраф. **(зк)**

## Лукашэнку дазволілі ехаць не толькі на Усход

Згодна з паведамленнем для друку Міністэрства замежных спраў Беларусі, 22 лютага ў Люксембургу Рада Еўрапейскага Саюза на ўзроўні міністраў замежных спраў дзяржаў-сяброў ЕС адмяніў рашэнне пра забарону на ўезд у краіны ЕС.

Такім чынам вышэйшыя дзяржаўныя чыноўнікі Беларусі, у тым ліку і прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка зноў могуць завітаць у еўрапейскія краіны. З 9 ліпеня 1998 года ім гэта было забаронена рабіць з-за канфлікту вакол рэзідэнцый замежных паслоў у Беларусі. Зараз толькі застаецца чакаць — жыхары якой краіны ЕС першымі нажыва пачуюць палымяныя прамовы Аляксандра Лукашэнкі. **(зк)**

## Лукашэнку не хапае ракет

Аляксандр Лукашэнка ўпэўнены, што расійскія ядзерныя ракеты павінны вярнуцца на Беларусь. Такую заяву ён зрабіў падчас візіту ў Маскву на пасяджэнне мытнага саюза краін СНД.

Пра вывад ядзерных ракет з Беларусі, які адбыўся некалькі гадоў таму, Лукашэнка сказаў наступнае: „Гэта была не толькі памылка, а нешта большае". Што — ён не патлумачыў. **(зк)**

## Суддзі пачалі ўцякаць

18 лютага ў Нямеччыне папрасіў палітычнага прытулку суддзя Ленінскага раёна Бабруйска Юры Сушкоў.

Згодна з прэс-рэлізам праваабарончага цэнтра „Вясна-96", у сваёй заяве да прадстаўніцтва АБСЕ ў Беларусі Юры Сушкоў сцвярджае: „Я болей не магу ісці супраць свайго сумлення і прынцыпаў прававой свядомасці, ажыццяўляць дзейнасць па абароне бесчалавечных законаў таталітарнага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі".

Суддзя прызнаецца, што ў мінулым годзе пад прымусам КДБ прысудзіў да некалькіх гадоў зняволення двух супрацоўнікаў Бабруйскай мытні, хаця быў упэўнены ў іх нявіннасці. Зараз ён лічыць неабходным заявіць пра ўсе абставіны крымінальнай справы ў праваабарончыя арганізацыі, з мэтай дамагчыся адмены несправядлівага прысуду.

Юры Сушкоў у сваёй заяве піша: „Дакладна вядома, што „нашымі" спецслужбамі, з мэтай выкрыцця злачынстваў, выкарыстоўваюцца „дзедаўскія" метады: падвешванне на краты на кайданках і збіццё, катаванне голадам і начнымі допытамі, пагрозай расправы і надзяваннем супрацьгазу з перацісканнем дыхальнай трубкі, вышчыпванне валасоў з палавых органаў, падпальваннем скуры. Дадзеныя метады выкарыстоўваюцца паўсюдна, бо з'яўляюцца простымі і таннымі, што для нашай дзяржавы вельмі выгадна".

**Зміцер Кісель**

# Рамонт Прыродазнаўчага музея



*Вонкавы выгляд Музея ў будучыні.*

— Мы ўжо выбралі будаўнічае прадпрыемства, якое адрамантуе Прыродазнаўчы музей у Белавежы, — заявіў 16 лютага 1999 года ў Гайнаўскім доме культуры дырэктар Белавежскага парку Чэславаў Аколуў падчас сустрэчы з жыхарамі Гайнаўкі. — Шукаем таксама арандатара для гатэля „Іва”, які схацеў бы адрамантаваць яго.

За сродкі Сусветнага банка, Экафонду, Нацыянальнага фонду аховы асяроддзя і Міністэрства аховы асяроддзя ад 1 сакавіка 1999 года да 30 верасня 2000 года Музей будзе рамантаваць бельскае прадпрыемства „Унібуд”. Дырэктар Чэслаў Аколуў інфармаваў таксама, што амаль усе прыродазнаўчыя экспанаты на час рамонту паедуць у Лясны інстытут Польскай акадэміі навук у Кракаў. Толькі экспазіцыя птушак застанецца ў Прыродазнаўчым цэнтры ў Белавежы і на месцы перахоўвацца будзе этнаграфічная частка.

Падчас дыскусіі гайнавяне найчасцей аспрэчвалі пастанову Белавежскага парку аб перавязенні выстаўкі ў Кракаў.

— Што вы будзеце прапанаваць турыстам? — спытаў старшыня Гайнаўскага аддзела БГКТ Міхал Голуб.— Ці не баіцеся рэзкага скарачэння колькасці наведвальнікаў?

— Можна было б на час рамонту ў Белавежы выкарыстаць выставачныя залы Беларускага музея ў Гайнаўцы, — прапанаваў намеснік старшыні ГП БГКТ Мікалай Нікалаюк. — Людзі, якія наведвалі б наш рэгіён, маглі б пабачыць адначасна і прыродазнаўчую выстаўку.

— Нельга вывозіць экспанаты, бо гэта наша спадчына, а мы зжыліся з ёю, як у сям'і, — аргументаваў Міхал Байко.

— Наша грамадства хоча, каб экспанаты засталіся на месцы, — гаварыў радны Васіль Іванюк. — Можа нейкае месца знайшлося б і ў нас.

— Няма што аспрэчваць вываз экспанатаў у Кракаў, бо там адпаведныя выставачныя ўмовы, але ў Беларускім музеі можна было б выкарыстаць этнаграфічныя матэрыялы і дапаўняючы сваімі можна было б урэшце наладзіць пастаянную экспазіцыю, — прапанаваў Віктар Кабац.

Дырэктар Чэслаў Аколуў заявіў, што спачатку шукаў месца для выстаўкі ў Белавежы, але не было там адпаведных умоў, а з Гайнаўкі не было ніякай прапановы. Інфармаваў, што ўжо неўзабаве прыродазнаўчыя экспанаты бясплатна паедуць у Кракаў, можна яшчэ размаўляць, ці этнаграфічную частку не памясціць у Беларускім музеі.

У Прыродазнаўчым музеі ў Белавежы сустрэў я працаўніка гэтай установы Пятра Байко:

— Напэўна рамонт быў неабходны, бо будынак ужо знішчаны. Экспазіцыю таксама трэба аднавіць, бо ад 1972 года, калі пачаў працаваць Музей, яшчэ не памянялася. Вываз экспанатаў у Кракаў будзе вялікай стратай для нашага асяроддзя. Запаведнік зуброў, Паказны запаведнік ці Старая Белавежа не памесцяць прыродазнаўчай выстаўкі, якой не будзе ў нас прыблізна каля чатырох гадоў. Паўтара года будзем перабудоўваць будынак, а пасля недзе два гады будзем арганізаваць выстаўку. З сённяшняга будынка застанецца толькі частка скляпення калоны. Зменены будуць дах і сцены, паявіцца больш драўляных элементаў, пабудуецца вежа, а там дзе зараз фантан, паўстане зала на 160 асоб, у якой можна будзе наладжваць канферэнцыі, глядзець фільмы і працаваць з камп'ютэрамі.

— Рамонтамі найбольш незадаволены працаўнікі гатэля „Іва”, бо цяперашні прыватны арандатар напэўна звольніць персанал, які папоўніць рады беспрацоўных, — заўважае дырэктар Грамадскага дома дапамогі ў Белавежы Мікола Галёнка. — Мясцовыя не хочуць вывазу экспанатаў, бо гэта можа прыпыніць прыток турыстаў, панізіць даход жыхароў і пабольшыць беспрацоўе.

Паводле дырэктара Чэслава Аколува, за апошні год Музей наведала каля 70 тысяч турыстаў.

**Аляксей Мароз**

# Папраўка

У артыкуле „Першыя крокі” („Ніва” № 9 ад 28 лютага 1999 г., стар. 3) памылкова падалі мы велічыню дыет гайнаўскіх павятовых радных. Радныя атрымаюць не 328 зл., як мы напісалі, а **528** зл. у месяц. Перапрашаем.

**Рэдакцыя**

# Рукадзелле Гайнаўшчыны

**— Беларусы добрыя не толькі на тое, каб насіць чобаты, — гаворыць Зіновій Галёнка, — але і патрапяць зрабіць прыгожыя рэчы. Я родам з Гайнаўшчыны і лічу сваім абавязкам прапагандаваць нашу культуру, паказваць свету вырабы рук нашых людзей.**

Зіновій Галёнка арандуе ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы памяшканне, у якім адкрыў кітайскі рэстаран „Белая ружа”. Нядаўна зняў яшчэ адну залу і ўжо паспеў наладзіць там дзве выстаўкі: жывапісу Алега Кабзара і малюнкаў гайнаўскіх дзяцей. 21 лютага ў гэтай зале адкрылася новая выстаўка: „Рукадзелле Гайнаўшчыны”.

— Я не скрываю, што такой дзейнасцю робім таксама рэкламу нашаму рэстарану, — кажа Зіновій Галёнка, які ў час урачыстасці частаваў гасцей шампанскім і бутэрбродамі. Кароткі канцэрт далі „Арэшкі” з Арэшкава і аб'ядная сем'і Фіёнікаў і Кабзароў з Бельска.

Падрыхтоўку выстаўкі Зіновій Галёнка пачаў з запрашэння солтысаў. Пасядзелі ў „Белай ружы”, пагутарылі, дзе яшчэ што старое зберaглося. Пастанавілі сарганізаваць выстаўку ткацтва. Шафёр спадара Галёнкі пазвозіў з ваколіц дываны, пакрывалы, ручнікі, макаткі і прылады, на якіх жанчыны ўсё гэта рабілі: калаўроткі, розныя матавілы і развітушкі, шчоткі для часання лёну, церніцы ды нават кросны. Мерытарычнай апекай выстаўку абняла этнограф-мастацтвазнаўца Івона Марціновіч.

— Ідэя выстаўкі такая: паказаць ткацтва ад самага пачатку, ад апрацоўкі лёну ці канапель, аж да ніткі і ткання, — расказвае яна. — Ну і вядома, самае вартаснае, эфект працы. Сабраны на Гайнаўшчыне матэрыял вельмі каларыстычны, на тканінах многа сакавітых колераў, цёплых вобразаў, ідылічных кампазіцый. На старэйшых экспанатах, дзесьці з 20-х гадоў пераважаюць геаметрычныя ўзоры. Кожны ўзор абапіраецца на ромбе. Жанчына, дадаючы нейкі элемент, ці то гольку, ці кветку, пераўтварала ромб у сонца або збажжовае поле. Абазначала гэта пладароддзе. Ромб з кропкай забяспечваў сям'і шчасце і багаты плён. На пазнейшых тканінах, з 50-х гадоў хутчэй за ўсё сустрэнем раслінны арнамент. Сустракаюцца таксама птушкі — сімвал шчасця і здароўя ў сям'і.



*Фота Івоны Марціновіч*

На адкрыцці выстаўкі можна было паглядзець тканне. За кроснамі сядзелі Надзея Грош з Арэшкава і яе сяброўка з дзяцінства, якая выйшла замуж у Чыжыкі, Марыя Петручук (хросная мама гаспадара).

— Цяжкая праца была, — расказваюць жанчыны, — пачыналася з піліпаўкі і працягвалася ўсю зіму. Пралі і ткалі, і ўсё шылі самі. А найцяжэй то было кужаль прасці на бялізну, бо трэба было старацца як найтанчэй, наймякчэй. Бялілі палатно на расе, а адзіным парашком быў попел. Калі мы выходзілі замуж, праўда, была ўжо купная бялізна, купныя касцюмы, але як нашы бацькі жаніліся, то ўсё трэба было рабіць уласнаручна. Але і мы ў пасаг рыхтавалі пасцель, ручнікі, настольніцы. Калі заедзе прыданне, бывала, назбіраецца людзей пад акном, каб хоць пагледзець, колькі чаго прывезла ў новую хату маладая.

У Беларускім музеі сабрана столькі ткацтва, што нават найбагацейшая дзяўчына не змагла б сабраць да вяселля. Выстаўку можна глядзець па працягу ўсяго вялікага посту, да праваслаўнага Вялікадня. Яе арганізатар лічыць, што добра было б, каб экспанаты не расплыліся зноў па куфрах і сундуках, а засталіся ў Беларускім музеі. І думае пра новую выстаўку: кавальства.

**Мікола Ваўранюк**

# Новая лекарская апека

У палове лютага наведаў я Чаромхаўскую амбулаторыю. Мне спатрэбілася накіраванне да спецыяліста ў Беласток. Шэф амбулаторыі, лекар Анджэй Лагуна, калі я запытаў пра ўмовы працу ў новай сістэме, сказаў такое:

— Цяжка сказаць, калі закончыцца прыстасаванне новага памяшкання. Не хапае грошай. На сённяшні дзень трэба нам каля 600 мільёнаў злотых. Гміна дала колькі магла. Спадзяваліся мы на падтрымку дзяржаўнай чыгункі, аднак тая маўчыць. Зараз мы лічымся філіялам Беластоцкага ЗОЗ мундзірных службаў. Абслугоўваем і вайскоўцаў, і паліцыю, і пажарнікаў. Адміністрацыя гэтых устаноў магла б нешта прыкінуць. Ды ўсе чакаюць гатовага!

— Мне здаецца, — працягваў А. Лагуна, — што справай Чаромхаўскай амбулаторыі павінны пацікавіцца прафсаюзныя арганізацыі. Але тыя больш дбаюць пра свае крэслы, чым пра грамадскія справы. Не лепш справа маецца з функцыянаваннем новай рэформы. Шуму з таго многа, а толку мала.

Пра гэта гавораць і лекары Беластоцкага ЗОЗ. Калі я запатрабаваў ад артапеда заказ на прафілактычныя боты, той мне сказаў:

— Прыйдзіце, калі ласка, пасля 15 сакавіка. Мо тады нешта будзе вядома, бо дагэтуль не маем падпісанага дагавору з Касаю хворых. Гэта скандал, каб дагэтуль не вырашыць такой праблемы. Інвалідаў адсылаем з „квітком”. Вы сёння ўжо другі, якога не магу задаволіць.

Мне невядома зараз, ці буду плаціць за артапедычныя боты, ці атрымаю льготу. Раней такія боты належаліся бясплатна. Вымушаны я таксама поўнасцю заплаціць за акуляры. Хоць мая акулістка, пішучы рэцэпт, суцяшала, што ёсць дагавор з Касаю хворых у той справе і быццам бы 5 зл. каса мне зверне. Працаўніца, да якой я звярнуўся з рэцэптам, сказала, што гарадскі ЗОЗ мае дагавор і звяртае 5,60 зл. за адны акуляры, мундзірны ЗОЗ такой дамовы не мае.

Вось табе і канстытуцыйная гарантыя на бясплатную лекарскую апеку! Вярхушка траціць мільёны злотых, падпісваючы неадпаведныя кантракты з некаторымі адзінкамі, а звычайны падаткаплацельшчык вымушаны дадаткова плаціць за паслугі медыцынскай службы. На маю думку, нешта тут не так. Мне здаецца, што не я тут хворы, а рэформа.

**Уладзімір Сідарук**

# Залатыя зубы за джынсы


*Лідзія Хмель і Міхал Патэйчук з Гурыноўшчыны наракаюць на сённяшнія парадкі.*

[1 ☞ *працяг*]

— Найбольш бяды са звярынай, — кажа спадар Аксантовіч. — Як алені ці козы ўварвуцца то *байкі*, горш, як статак зуброў пад хату падыдзе! Усе пасевы, усе агароды сцерагчы трэба, гарадзіць. На бульбянішчы сабаку трэба прывязваць, каб брэхам дзікоў палохаў. Інакш звярына сцярэбіць дашчэнту пасевы, плёны.

У Гурыноўшчыне няшмат ужо жыхароў, пераважаюць пенсіянеры. Самыя папулярныя тут прозвішчы Саевіч ды як у нашага субясебніка — Аксантовіч.

— Мае дзеці ў горад пайшлі, з жонкай свае дні дажываем, — апавядае пра сваё нялёгкае жыццё гаспадар. — У час апошняй вайны ўсіх вяскоўцаў перасялілі на ўсход. На голы камень людзі вярталіся, усе будынкі нанава будаваць трэба было, нажывацца... Пасля нас тут патоп прыйдзе. Звярына ўварвецца, зарасце нас пушча.

**Я супраць НАТО**

Солтысам Гурыноўшчыны з'яўляецца жанчына. У пошуках пані солтыс трапляем у хату Мікалая Патэйчука. Аглядзеўшы ды ўпэўніўшыся, што мы — не прапаведнікі новай рэлігіі, гаспадар запрасіў нас у хату.

— За камуны добра жылося, — уздыхае М. Патэйчук. — А цяпер што? Маладыя не маюць працы, земляробы дзяржаве непатрэбныя!

У хаце нашага субяседніка беспрацоўны і нежанаты сын.

— Я супраць таго НАТО, — заяўляе гаспадар. — Што нам яно дасць? У Парк як звярыну нас пазамыкаюць, каб сваёй галечай у вочы ўсякім панам мы не калолі, не мяшалі.

Мікалай Патэйчук наракае на дэмакратыю і яе парадкі.

— У Дубічах хуткую дапамогу закрылі. Мне жонка захварэла, званю ў Гайнаўку, а там адказваюць, што мы не раён — каб не чакалі.

— Нікому мы непатрэбныя, — падключаецца да размовы Лідзія Хмель са Старыны, якая прыйшла наведаць хворую. — Замкнуць у той Парк і нават дроў на зіму не будзе.

У цёткі „залатая" ўсмешка:

— Залатыя зубы ў Беларусі „зарабіла". Я іх за адны джынсы ўставіла, — паясняе з гонарам пенсіянерка. — Танней выйшла, як за касцяныя ў нас.

— А пра агратурызм ніхто ў вас не думае? — пытаем.

— Я чуў па радыё, — абураецца гаспадар, — што адна турыстка ў Нараўцы замест у хаце, у стадоле начаваць захацела!

**Выйшлі на вуліцу паглядзець**

Хуткім крокам пакідалі мы Гурыноўшчыну. У Старыне чакаў нас гарачы абед.

Пасля гаспадары з Войнаўкі падставілі трактары з вазамі і наладзілі нам... куліг па Белавежскай пушчы. І многія жыхары Старыны выйшлі на вуліцу пагля́дзець на вясёлую, расспяваную грамаду „турыстаў".

— Такія то пажывуць! — адчувалася ў іх поўных дакору позірках.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

# Бізнесмен з-пад Ваўкавыска

[1 ☞ *працяг*]

бытак аказваўся ўдвая большы за ўкладзеныя ў куплю тавараў грошы. Але два гады таму ўсё гэтае скончылася. На беларускай мяжы ўвялі мытную плату за такую колькасць польскіх прадуктаў, пасля палякі прыдумалі візы, быццам бы хацелі абмежаваць свой найбольш выгадны экспарт тавараў на ўсход, а восенню мінулага года Лукашэнка амаль зусім закрыў мяжу для прыватнага вывазу тавараў з Беларусі ў Расію. Прыйшлося перайсці да такой формы гандлю, з якой пачынаўся прыватны беларускі бізнес на пачатку дзевяностых гадоў, — сказаў госць з-пад Ваўкавыска.

Сёння найлепшы заробак на беларускіх спіртных напоях, вельмі танных у Беларусі. Калі перавязеш гарэлку цераз мяжу, атрымаеш каля 150 працэнтаў чыстага прыбытку, лічачы ад вартасці тавару, — шчыра заявіў суразмоўца алексіцкіх сялян. Унутры аўтамабіля можна прыхаваць каля 50 пляшак, але часам бываюць з гэтым клопаты. Калі мытнікам захочацца дакладней скантраляваць аўтамабіль, праз 10 хвілін можна вяртацца назад. Разумею палякаў, — кажа ваўкавыскі бізнесмен, — але чаму нашы стрымоўваюць экспарт тавараў, якім зацікаўлена кожная дзяржава ў свеце? Месяц таму савецкія мытнікі забралі ад яго на мяжы 40 пляшак „Крышталю". Далей не паехаў. Проста вярнуўся, каб купіць тавар.

Прыклад маладога чалавека з падваўкавыскай вёскі паказвае, што беларусы, так як кожная іншая нацыя, умеюць зарабляць грошы. Багатыя народы сталі багатымі таму, што дзяржава дазваляла грамадзянам дзейнічаць на эканамічнай ніве, сама не займалася гаспадаркай, а толькі ствараля ўмовы для прыватнага актыўнасці. Узамен дзяржава патрабавала ад грамадзян толькі плаціць падаткі, каб утрымаць ураднікаў, армію, паліцыю і турмы для злачынцаў, якія, напрыклад, хацелі незаконна прысвоіць сябе чужую маёмасць. Народ ніколі не стане багатым, калі дзяржава будзе ствараць законы, каб лягчэй прысвойваць маёмасць грамадзян. Такую сітуацыю маем аднак у цэлай посткамуністычнай Еўропе. У Беларусі, на жаль, выступае яна ў самай крайняй форме. Таму бізнесмен з-пад Ваўкавыска, калі не захоча жыць так, як яго бацькі калгаснікі, праўдападобна надалей будзе дзейнічаць па прынцыпе кантрабандыста і вазіць цераз мяжу раз пару мяшкоў цыбулі, другі раз пару пляшак гарэлкі.

**Яўген Міранові**ч

# Сход Управы БГТ

23 лютага г.г. адбыўся сход Управы Беларускага гістарычнага таварыства. З нагоды 5-годдзя існавання таварыства было вырашана ў канцы сакавіка г.г. правесці з'езд сяброў і прыхільнікаў арганізацыі. Прадбачваецца мерытарычная ацэнка 5-гадовай дзейнасці БГТ і вызначэнне планаў на будучыню.

Управа БГТ вырашыла таксама даверыць Славаміру Іванюку і Дарафею Фіёніку арганізацыю ў Бельску-Падляшскім выстаўкі, прысвечанай гісторыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне пасля II сусветнай вайны.

Сябры Управы падтрымалі ідэю Вячаслава Харужага ўшанаваць памяць забітага польскім падполлем у 1944 годзе беларускага нацыянальнага дзеяча з Беласточчыны Мікалая Чарнецкага. На праваслаўным могільніку ў Беластоку, дзе знаходзіцца занядбаная магіла Чарнецкага, будзе ўстаноўлена гранітная пліта з выявай Еўфрасінеўскага крыжа і прозвішчам нябожчыка. **(ям)**

# Ціхія браты

„Кожны народ агідны ў іншы спосаб" — гэта выслоўе Стэфана Кісялеўскага, якое стала эпіграфам да кніжкі Вацлава Урбана „Вакол Польшчы"*. Аўтар, кракаўскі гісторык, прафесар, які амаль тры дзесяцігоддзі выкладае ў Кельцах, напісанне гэтай працы абгрунтоўвае такім чынам: „Ад стагоддзяў знаходзімся „паміж молатам і накавальняй". А і цяпер кепска дзеецца вакол Польшчы ды дрэнна ідуць справы ў нас і ўнутры нас. Менавіта таму патрэбны нарыс „Вакол Польшчы. Суседзі і мы да 1939 года". Бо нягледзячы на ўсялякія лозунгі аб гісторыі як настаўніцы жыцця, нацыянальныя характары існуюць так сама рэальна як людскія характары, хаця яны не з'яўляюцца нязменнымі". Паколькі аб адносінах з суседзямі палякі наогул ведаюць зусім мала, аўтар паставіў сабе за мэту ахарактарызаваць кожнага з іх, карыстаючыся часта мала вядомымі шырокаму колу чытачоў гістарычнымі фактамі, і не адмаўляючыся ад стэрэатыпаў, зыходзячы з меркавання, што ў кожным з іх змяшчаецца больш за 50% праўды. Таму польскім нацыяналістам і ўсялякага роду -філам заяўляе ва ўступным слове, што не будзе пазбягаць ні абвінавачванняў, ні паказвання слабасцей ды заган палякаў і іх суседзяў. Далей аўтар прапануе прыглядзецца самім сабе і суседзям, якіх на працягу тысячагадовай гісторыі Польшчы было пад два дзесяткі і на пачатак бярэцца за немцаў.

Польска-нямецкія адносіны нагадваюць аўтару сужыццё ваўка і ягняці, пераплеценае перыядамі палітычнай і мірнай экспансіі немцаў на польскія землі. Напрыклад, Фрыдрых Энгельс у 1851 г. палічыў, што палякі не годныя існавання і таму трэба іх выцясняць з тэрыторыі між Клайпедай і Кракавам, спакушаючы іх і цешачы надзеяй на Рыгу і Адэсу. Таленавітым выканаўцам плана Энгельса стаў „жалезны" канцлер Ота фон Бісмарк. Таксама пасля 1918 г. большасць нямецкага народа — ад кансерватараў да камуністаў — варожа паставіліся да Польшчы, а тэрмін *Polnische wirtschaft* (польская гаспадарка) стаў для немцаў сінонімам усяго найгоршага.

Чэхі — гэта непадобныя браты, бо традыцыйна п'юць піва (палякі — чыстую гарэлку). У палякаў яшчэ чысты гонар, затое брудныя нужнікі, а ў чэхаў — наадварот. У XIX ст. чэхі лічылі палякаў скандалістамі, ветрагонамі, зладзеямі і гультаямі. Славакі, якіх, паводле аўтара, дзвесце гадоў таму прыдумаў ксёндз Антоні Бярнолак з памежнай Аравы, усведаміўшы сабе, што яго землякі карыстаюцца асобнай мовай, гэта дабрадушны, гаваркі і надта ляніві народ, які розніцца да палякаў большым, сялянскім дэмакратызмам. Украінцы — гэта ў сваю чаргу задзірыстыя, рускія — неразгаданыя, а літоўцы — сварлівыя браты. Аўтар у больш-менш падобны спосаб характарызуе яшчэ венграў, румынаў, туркаў, татараў, шведаў, датчан, яўрэяў і кіруючыя колы колішніх Інфлянтаў.

А якім народам уяўляюцца аўтару беларусы? Адказам на гэтае пытанне можа паслужыць загаловак прысвечанага нашай нацыі раздзела: „Ціхія браты або Беларуска-польскія адносіны". У самым яго пачатку аўтар сцвярджае, што беларуская нацыя толькі што стварaецца, а ў мінулым яе члены былі пакрысе літоўцамі, палякамі, рускімі і тутэйшымі. Паводле прафесара Вацлава Урбана, беларуская нацыянальная свядомасць стала развівацца толькі ў пачатку XX стагоддзя. Успамінае ён таксама пра спробы выдзялення паляшуцкай нацыянальнасці. Кароткі гістарычны нарыс пра польска-беларускія адносіны пачынаецца са сцвярджэння, што палякі межавалі з беларусамі на Падляшшы амаль заўсёды і наогул была гэта мірная граніца, чаму спрыяла моўная блізкасць, паколькі беларуская мова, мабыць, больш зразумелая палякам чым кашубскі дыялект.

Калі наогул з бядой можна згадзіцца з праведзенай аўтарам ацэнкай гістарычных фактаў шматвяковай даўнасці, дык нельга гэтае зрабіць у адносінах да навейшых падзей. Пішучы пра „бурнае развіццё беларускага народа" пасля святкавання „Дзядоў" у Мінску ў 1987 г. прафесар Урбан сцвярджае, што „хаця палякі складаюць там [у Беларусі — В. Л.] больш за 5% насельніцтва, беларусы досыць цвёрда прад'яўляюць тэрытарыяльныя патрабаванні ў адносінах да Беластоцкага ваяводства". Праўда, многа шуму ў польскіх сродках масавай інфармацыі выклікаў у канцы васьмідзесятых гадоў артыкул Барыса Сачанкі пра Беласточчыну ў „Літаратуры і мастацтве", аднак меркаванне пісьменніка не лягло ў аснову ні афіцыйнай палітыкі беларускай дзяржавы, ні праграм шматлікіх партый і арганізацый, якія беспярашкодна дзейнічалі ў Беларусі ў далукашэнкаўскі перыяд. Тэзіс аб прэтэнзіях Рэспублікі Беларусь на Беласточчыну лічу ў наш час нічым неабгрунтаваным, так як замацаваны ў клерыкальна-правых колах Беласточчыны стэрэатып беларуса, які ўвесь час думае пра далучэнне гэтага ваяводства да Беларусі. У сённяшніх эканамічных і палітычных умовах хутчэй ажыццявіўся б адваротны сцэнарый, з цягай палякаў Гродзеншчыны да гістарычнай айчыны на першым плане. Спрэчным таксама лічу меркаванне аўтара, што цяперашняе Згуртаванне беларускай шляхты было створана ў процівагу польскай стыхіі.

Супярэчлівых пытанняў у гэтай кніжцы даследчыкі і аматары гісторыі паасобных народаў знойдуць мноства. Аўтар, аднак, улічыў такую рызыку сцвярджаючы, што для ўсталявання здаровых адносін з суседзямі неабходна пазбавіцца скажонага бачання, снабізму, а „пазнанне хваробы — гэта палова дарогі да яе вылячэння".

**Віталь Луба**

*Wacław Urban, *Wokół Polski. Sąsiedzi a my do 1939 roku*, Kielce 1997, s. 58.

# Літаратурная старонка (470)

Міра Лукша

## Да Квадрата

— Калі ты сам сябе зранку не пахваліш, увесь дзень ходзіш як апляваны, — пачынае свой позні ранак Квадрат (імяніны 4.01. і 21.09. с.ст.) Маратавіч, заснавальнік партыі бінцаў у мястэчку Якубінкі, сталіцы талерантнага выжывання.

— Ты памыўся б лепш перад полуднем, пачысціў бы свой лыч, — з чуласцю глядзіць па Квадратавай шчаціністай булаве ягоная лагодная жонка Тэкля, якую, як сам кажа, забраў быў, цудам кажучы, з нейкага Пшэдпекля, каб зрабіць з яе матку двум сваім нашчадкам і спадкаемцам Амялу і Памялу, як іх назваў традыцыйна, па-славянску, і анёльскага ахоўніка сваіх паперыскаў, дроў ды печы радзіннай, не гаворачы ўжо пра пеставанне Квадратавага далікатнага цела.

Ціхмяная Тэкля падсоўвае Квадрату люстэрка, з якога выглядае на яго „тыповая злосная доўгая яцвяжская морда".

— Яцвягі любілі выпіць, і таму так доўга не маглі дабіць іх братнія плямёны, а і цяпер блукаюцца іхныя гены ў нашым тут старонні тутэйшым ды хамулаватым, дадаючы шляхетнасці ў рысах, — паасацыявалася Квадрату прачытанае ў элітарным часопісе.

Падсоўвае Тэкля свайму Квадрату лёгкападваранныя стравы, над якімі ён западае ў маркотны одум. Сама гаспадыня тэпае ў агарод, прапалоць італьянскія вынаходствы каралевы Боны, якія яна ў свой час звалакла ў наша тут старонне, каб адкарміць вітамінамі больш еўрапейскімі дзікае племя, абжыраючаеся дагэтуль бацвіннем і сніткай. Тут вось гуркі, бракулы, гарбузы, салату ды іншае вырошчвае Тэкля для непазнакі, бо корміць свайго Квадрата толькі мясам. У ваколіцы кажуць іншаверцы, што Квадрат кожны ранак пажырае па цёпленькім дзіцятку, відома, іншаверным або і няхрышчаным, запівае свежай кроўкай нявінных душачак. Але то ж лухта неталерантных і прымітыўных суседзяў! Мы ведаем з праверaных крыніц, што Квадрат спажывае з мусу курыныя, свіныя ды цялячыя целы, і відома, душа яму крывавіць ад неабходнасці смерці нявінных братоў нашых меншых, але гэта ж жыццё — мы, людзі, таксама мусім есці... Ці ты паляк, ці ты беларус, ці амерыканец, ці гістарычны ліцьвін. Але, мусім тут сказаць з цэлай адказнасцю за слова: Квадрат гэта робіць з болем душы, а ўся яго самавітасць — адно ад бульбы з салам.

Пазбыўшыся кабеты з хаты, Квадрат распраўляецца са сваім лёгкім сняданкам і бярэцца за атрамант. Пачынае правіць напісанае. Замяняе дзеясловы, дзеепрыметнікі, назоўнікі, прыметнікі ды ўсё іншае, перастаўляе парадак слоў у сказах, сямтам ставіць коскі, працяжнікі ды клічнікі, выкідае двукоссі (цытуючы з самога сябе) і кладзе лісток у стол, каб адлежаў свой наступны месяц...

— Тэкст — як добрае віно або выдатны сыр, — задаволена глядзіць Квадрат на свой класічны адбітак у люстры. — Добрая крылатая фраза, якую выкарыстацьмем у наступным творы. Толькі трэба абдумаць, на якой мове будзе лепш яна гучаць.

Ад брамкі, адбіваючыся ад сабак, з віскам прущца нейкія асобені. Зноў будуць неспакоіць дурнымі пытаннямі!

— На гэты раз пастаўлю не яблычнае віно ім, — бурчыць Квадрат, — а з дурнап'яну. Танней будзе, і хутчэй іх паваліць.

Маладое вінцо з дурнап'яну (лацінская назва *шалеюс блекотус*) падзейнічала так адмыслова, што ў газетах і часопісах павяіліся тэксты тадышніх наведвальнікаў Хаты Квадрата, з якіх відаць, **што** аўтары пілі ў гасцях у легендарнага волата слова і пачыну.

Міхась Андрасюк

## Кароткая гісторыя Партыі кучаравых

### I. Зачацце

Паважаныя партыі, партыі, якія маюць амбіцыю валодаць светам, або прынамсі ладным гэтага свету куском, пасяляюцца наогул у манументальных, грандыёзных гмахах, найлепей у цэнтральным пункце горада, пры галоўнай вуліцы. Спаглядаючы з-за высокіх, прыцямнелых вокнаў на шматлюдныя тратуары, партыйныя людзі наладжваюць штодзённы, зрокавы кантакт са сваімі выбаршчыкамі. З крокаў — шпаркіх або няскорых, з жэстаў, з позіркаў адчытваюць патрэбы, адгадваюць спадзяванні, ацэньваюць удачы і няўдачы звычайнага чалавека. За магутнымі мурамі прымаюцца пастановы, якія вядуць ананімны натоўп у найлепшым напрамку. А потым партыйныя людзі апускаюцца ніжэй, у маленькія піўныя, залежна ад светапогляду — або да пана Зэнка, або пана Валодзі — дзе за куфлем піва разглядаюцца за сродкамі і кааліцыянтамі, заўжды неабходнымі для развіцця ўзятай пастановы.

Каб зэканоміць на лішняй хадзе між кабінетамі, дзе нараджаюцца слушныя ідэі, а піўнымі, дзе тыя ж ідэі з папяровага быту пераходзяць у цалкам рэальнае існаванне, Партыя кучаравых пасялілася там, дзе ў цёплы, бязветраны чэрвеньскі вечар упершыню пабачыла свет. Месца называецца „Бар у Алеся" і добра яно вядомае тым, хто мае жаданне заглянуць сюды, як і тым, хто шырокім колам стараецца абмінуць гэты храм нестандартнага спажывання часу.

Значыць — Партыя кучаравых нарадзілася. А зачацце адбылося цалкам звычайна і калі нехта спадзяецца паслухаць тут пра палавыя зносіны, пра дамска-мужчынскія гульні, словам — пра ўсё тое, што супярэчыць агульна прынятым хрысціянскім вартасцям — той адыдзе з нічым. Людзі падымаюцца з праху ў традыцыйны, усім зразумелы спосаб, а вось партыі выходзяць на свет іншымі, не заўждыараднымі ходамі.

Сядзелі мы „У Алеся" — Тадзік Навіцкі, Валя Курапатва і я. Чэрвеньскі адвячорак, цёплы і бязветраны, налівай нам у паражнія куфлі шаўкавістую радасць жыцця, перамешаную з задуменнасцю над яго непаўторнасцю і нядоўгатрываласцю. І нам захацелася зрабіць штосьці добрае і вялікае, што будзе між людзьмі нават тады, калі чэрвеньскі вечар пераўвасобіцца ў кастрычніцкую слоту, напухне холадам і парывістым ветрам.

Словам — хацелася ўдасканаліць і выратаваць свет.

Праўда, на добры пачатак маглі б кінуць залатоўку або і дзве ўтаптанай у тратуар, выхудзелай румынцы. Маглі б дапамагчы пераправіцца на другі бок вуліцы згорбленай старушцы, калі стаіць і бяссільным зрокам угледаецца ў бясконцую чаргу машын. Маглі б таксама падняць з тратуара дзядзьку Антося, п'янага як шавецкі панядзелак, калі ляжыць там ніц, званітаваўшы пад сябе ўсё, што ў Алесевым бары найлепшае. Маглі б прынамсі выцягнуць яго з непрыстойнай мазі. Маглі б. Аднак усе тыя добрыя ўчынкі — па сутнасці — кароткачасовыя, ды іх уплыў на вобраз свету не мае вялікага значэння. Румынка, атрымаўшы дапамогу, заўтра з'явіцца з кучкай малалетніх дзетак; старушкі будуць клыпаць з тратуара на тратуар, быццам бы тое клыпанне аказалася апошняй мэтай іхняга жыцця. А Антось? А дзядзька Антось будзе ляжаць тут і заўтра, і паслязаўтра, а калі месца апарожніцца — значыць — сціплая дзяржаўная пенсія пацярпела паражэнне ў канфрантацыі з дашчэнтна прыватным, узбуялым апетытам гэтага ж дзядзькі.

А нам хацелася перайначыць свет з далёкім разлікам.

— Адзінка свет не перайначыць, — Тадзік ікнуў у парожні куфаль.

— Адзінка абсалютны нуль, — праўду, прыдбаную ў школьныя гады, падкінула Валя.

Гэтыя праўды добра ўсім вядомыя, як і вядомы факт, што канчаткова яны абанкруціліся і выратаваць свет не ў сіле. Новы час патрабуе новыя ідэі і я, паглыбіўшыся ў ёмістыя кішэні мазгавое матэрыі, стараўся тыя ж ідэі адшукаць, ахвяраваць іх свету і сябрам. Аднак новае нараджаецца памаленьку і не бязбольна.

Даводзілася клікаць на дапамогу Алесеву барменку — раз, другі і трэці — аж мазгі, сяк-так прылашчаныя і памякчэлыя, прамовілі чалавечым голасам:

— Трэба нам заснаваць партыю.

— Нам трэба незалежную партыю, — удасканаліла думку Валя.

— Не правую, і не левую, — рассудзіў Тадзік.

— Нам трэба партыю кучаравых, — сказаў я, спаглядаючы на залатыя кудзеркі Алесевай памочніцы. — Хаця б вось, такіх.

На ружовай сурвэце паспелі мы яшчэ напісаць кароткую аб'яўку: „Сёння пачала дзейнічаць Партыя кучаравых. Сядзіба — тут. Чакаем спонсараў, членаў і сімпатыкаў. Подпіс. Тэлефон". Сурвэту павесілі ў добра відочным месцы і з-за недахопу фінансавых сродкаў падаліся ў рээміграцыю. Сказаўшы больш зразумела — сышлі дамоў.

***(працяг будзе)***

Сэрафін Корчак-Міхалеўскі

### Падляшскія рэкі

Не толькі Мухавец
не толькі Буг з Нарвай
а нат і з Бобрай
усе яны плывуць
на захад
каб французы ведалі
як спяваць вячэрняму
сонцу
каб і немцы не забылі
пра зубра мядзведзя
ды тура
каб лужычане і кашубы
памяталі
ды ўнукам перадалі
што над Супраслям
ціха-дружна моляцца
манахі
што над Правай Лясной
канцэртуюць
анёлы
што сярод яўрэйскіх
Давідавых псальмаў
над Арлянкай
нарадзіўся
праваслаўны
бібліёграф

Міхась Андрасюк

### Бабулька

Даўно ахрышчана
і замужам даўно,
а дзеці ў свеце,
за дзяцьмі і сэрца.
Што боскае
вярнула ўжо. Адно
сябе вярнуць у вырай астаецца.
А ноччу сніцца
белы-белы птах.
Крылом пачатку,
і пяром пачатку,
на схіле неба,
на мінаючых гадах,
душа развязвае цялесную
загадку.

Не адгадаць сябе
ў распусце дня,
святло фальшуе
і фальшуюць вочы.
І выпівае боль душа
да дна,
і цела аддае ў абдымкі ночы.

Ірэна Кулік

### * * *

Магія сноў
прападае
на возеры
турбот
Крывадушнасць
родзіцца
на судне
аздоб
Ты
плывеш
у расчараванні
блакіту...

Іаланта Кабзар

### * * *

Ужо не я
Птах з прастрэленым сэрцам
Ці ж не дзіўна
Што крывавіць блакітам
Проста ў неба
Бо ты ж яшчэ хацеў бы
Прыласкаць
Той колер бяздомны

Глядзіш у мяне
Праз мяне
Наскрозь
Без мяне праходзіш
Без слова

Ужо не ты
Праніклая блакітам хустка

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Зіма

Снежная пара —
Добра чуць яе ў грудзях,
Снег імчыць,
Хлопчык снежную бабу лепіць,
Дзяўчынка б'еццa на снежкі,
Іншыя дзеці з'язджаюць у далінцы.
Але ўсё міне
Калі пані-Вясна прыйдзе!

**Мажэна Бадовец,**
**VI клас ПШ**
**у Дубічах-Царкоўных**

# Малыя жартаўнікі з II „а"

— Як тваё прозвішча? — пытаю Міхася.

— Я не маю прозвішча — стойка заяўляе другакласнік.

...Nazwisko, nazwisko... — падказваюць збітаму з панталыку хлапчуку сябры.

— А... гэта, — смяецца Міхась і ўвесь клас II „а" бельскай „тройкі".

— Я Міхась Герасімюк, з Праневіч.

Мае новыя сябры не ведаюць яшчэ ўсіх літар. Нягледзячы на гэта многія з іх умеюць напісаць па-беларуску сваё імя. Прозвішча пакуль што здаецца ім мянушкай.

Найбольш люблю літару „Ж", — кажа Лукаш Тарасюк, па-польску яна нагадвае знак ZORRO а па-беларуску жука.

У класе 27 дзетак. Іх настаўніцай беларускай мовы Аліна Ваўранюк.

Вучні II „а" пасябравалі са сваімі аднагодкамі з Беластока, навучэнцамі Пачатковай школы н-р 4, што вывучаюць беларускую мову.

— Мы пабывалі ў іх горадзе, а яны ў нашым, — расказваюць дзеці.

Бельскія другакласнікі наведалі ў Беластоку Макдоналдс і басейн, а беластачане школу „тройку" і скансен у Студзіводах.

— Нашы хлопцы зачаплялі дзяўчат з II „а", — кажуць дзяўчынкі. Пры нагодзе дзеці расказалі пра свята закаханых „Валянцінкі". Самую вялікую колькасць валянцінкавых картак (4) атрымала Аня Корпач, найлепшая вучаніца.

— А я дастаў аж 12 картак, — пахваліўся гаваркі Мар'юш Каральчук.



*II „а" шле прывітанні сябрам.*

Як высветлілася, усё карткі з прызнаннем у каханні хлапчук выслаў сам сабе.

— Я хацеў зрабіць уражанне на пісьманосцу, — прызнаўся жартаўнік.

Дзеці назвалі класных выдатнікаў: Аню Корпач і Лукаша Тарасюка.

— Усе дзеці любяць беларускую мову, усе добра чытаюць, старанна пішуць, — пахваліла сваіх другакласнікаў Аліна Ваўранюк. Дзеці праспявалі песні „Там сняжынка", прадэкламавалі некалькі вершаў ды прачыталі чытанкі, якія падрыхтавала настаўніца. Адрыян Лапінскі палічыў да трыццаці на беларускай мове.

— Лічыць навучыла мяне бабулька Валянціна Лапінская са Стрыкоў, — пахваліўся хлопец.

Тут варта адзначыць, што многія дзеці з II „а" стараюцца вывучаць беларускую мову якраз ад бабуль і дзядуль, да якіх ездзяць у вёску.

— Карыстаемся „Літарынкай" і час ад часу „Зоркай", — кажа настаўніца.

Дзеці паказалі свае малюнкі, якія ўзніклі пасля прачытання ў „Зорцы" казак.

— Калі навучымся чытаць, будзем падпісвацца на „Ніву", — заявілі мае сябры на развітанне.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*

## Польска-беларуская крыжаванка № 10

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" (так як і школьную крыжаванку) на працягу 3 тдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 📖 | Morał | Pora | | Rada | Szacunek | |
| Ukrop | Bagno | | | | Nawyk | |
| Brona | | | | | | |
| | | | | | | |
| Broda | | | | | | |
| Głowa | | Przybudówka | | 📖 | | |
| | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 6:** Адрас, крыніца, анёл, мана, рак чын. Лак, драма, рынак, кан'ён, сілач, баран.

*Школьная крыжаванка Андрэя ПАЎЛЮЧУКА з ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім*

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | Жыве ў будзе | | | | |
| | | | | | | Расце на кусце і ў агародзе | | | | |
| | | | | | Жыве ў хаце і мяўкае | | | | | |
| | | | | | Пішам яго на лістках. | | | | | |
| | | | | Жыве ў лесе і вые | | | | | | |
| | | | | | | Нітка і... | | | | |
| | | | | | | | | | | |

Дзесяты месяц года

Пасля правільных адказаў атрымаеце лозунг. Дашліце яго ў „Зорку".

Унагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Ірэна Драўноўская** з Катоўкі, **Юліта Харытанюк** са Старога Корніна, **Анна Рудэчка** і **Анджэліка Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага, **Сільвія Пятрышык** з Кленік, **Дар'юш Ляўчук** з Чыжыкаў. Віншуем!

☞ **Ад першага па шосты люты ў Старыне адбыліся XVI Сустрэчы „Зоркі".** Было на іх трыццаць сем дзяцей і дзевяць апекуноў. На працягу тыдня мы мелі за задачу паставіць спектакль. Падзяліліся на дзве групы. Першую вяла Аліна Ваўранюк, другую Сяргей Патаранскі — рэжысёр з Беларусі. Я была ў групе Аліны Ваўранюк. Мы мелі многа песень у сваім тэатры. Група Сяргея падрыхтавала тэатральную сцэнку пад загалоўкам „Моцарт".

Апрача таго мы вучыліся журналістыкі, як пісаць эсэ, фельетон, рэцэнзію і інфармацыю. Заняткі вялі: Аляксандр Максімюк, Мікалай Ваўранюк, Віталь Луба ды нашыя сябры: Жанэта Роля і Міхась Стэпанюк — вучні „бельскай тройкі". У некаторыя дні адбываліся вечарніцы, на якіх мы спявалі песні і чыталі вершы нашых паэтаў: Жанэты Ролі, Мажэны Жменько, Агнешкі Галімскай, Ірэны Кулік і Сяргея Патаранскага. У чацвер мы паехалі на санну ў лес і там было вогнішча. Назад мы паехалі з запаленымі паходнямі.

У пятніцу быў фінал Сустрэч. Мы запрасілі сваіх бацькоў і жыхароў вёскі.

Сустрэчы „Зоркі" спалучаюць прыемнае і карыснае. Я навучылася новых песняў, як пісаць эсэ, фельетон, інфармацыю і рэцэнзію, а перад усім пазнаёмілася з новымі сябрамі.

Варта прымаць удзел у Сустрэчах „Зоркі".

**Наталля Кучынская, V „а" кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

☞ **22 студзеня 1999 года я паехала ў Нараўку на цэнтральны этап конкурсу „Роднае слова".** Было там 60 вучняў з 25 школ. Усе вучні былі вельмі добра падрыхтаваныя. Удзельнікаў конкурсу падзялілі на тры ўзроставыя групы. Я была ў першай групе — гэта вучні I — III класаў. Я дэкламавала верш Рыгора Барадуліна „Як яноты вучылі ноты" і заняла III месца. Усе лаўрэаты конкурсу атрымалі рэчавыя ўзнагароды. Я вярнулася з Нараўкі вельмі радасная. На другі год я з ахвотаю буду ўдзельнічаць у гэтым конкурсе.

**Магда Пахвіцэвіч, III „д" кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

Талон „Зоркі" № 10
07.03.1999

# „Куль”

**(спектакль у дзвюх частках)**

**„Моцарт”**

Выступаюць:

— Моцарт,

— Сальеры,

— жанчына,

— эльфы,

— анёлы,

— музыканты,

— рэперы.

*(Уваходзіць жанчына і дэкламуе верш „Магчымасці”)*

**Жанчына:**

Учора... сёння... заўтра...

Для цябе — успаміны... амбіцыі... цікавасць...

Для яго — шчасце... манатонія... мары...

Для яе — звычайнасць... гора... надзея...

Для мяне — няўпэўненасць... імкненні... спадзяванні...



Жанчына: Жанэта Роля.

Колькі нас

Столькі магчымасцей.

*(Жанчына адыходзіць. Цяпер уваходзіць Сальеры, які прытым разрывае дэкарацыю і спявае)*

**Сальеры**:

Няўдзячны лёс, калі перад усім

Цярпець бязвінна ўсякія напасці,

Няма ніякай радасці і ў тым,

Калі нам нехта вызначае шчасце.

Я гэта я, а ты ўчынак мой

Сваёю мерай мераеш старанна.

Калі суддзя гарбук, дык за суддзёй

З яго жадэннем я гарбатым стану *(х 2)*.

*(З-за заслоны непрыкметна ўваходзіць Моцарт. Сальеры глядзіць на ўсе бакі, шукаючы Моцарта. Раптоўна ён пералякаў Сальеры і сказаў такое)*

**Моцарт**: Ага, убачыў ты, а мяне карціла пачаставаць цябе знянацку жартам.

**Сальеры:** А ты тут даўно?

*(Яны ходзяць навокал сябе, гледзячы прытым сабе проста ў вочы)*

**Моцарт**: Я да цябе ішоў. Ды ідучы каля карчмы, пачуў раптоўна музыкантаў. Не вытрымаў, прывёў я музыкантаў пачаставаць цябе іхнім мастацтвам.



Сцэнка ў карчме: Алег Кабзар, Мажэна Жменька, Пятрусь Пракопчык.

*(Уваходзяць музыканты і спяваюць)*

Widziałem... słonia cień. Do góry wzbił się niczym koń...

**Сальеры:** *(прагаяне музыкантаў і кажа)*

Ты з гэтым да мяне ішоў і мог каля карчмы спыніцца.

*(Прыводзіць да сябе Моцарта. Той стае на калені)*

Ды ты нявартьі, Моцарт, сам сябе.

*(Моцарт устае)*

Ты Моцарт — Бог і сам гэтага не чуеш. Я гэта адчуваю.

**Моцарт:** Што ж. Хораша.

*(Сальеры кладзе руку на плячо Моцарта)*

**Сальеры:** Давай паабедаем у рэстаране „Залаты леў”.

*(Сальеры і Жанчына спяваюць „Titanica”)*

*Every night in my dream*

*I see you, I feel you*

*Ther's some love desting go on...*

*(Моцарт і Сальеры сядаюць і гавораць між сабою)*

**Сальеры:** Ты, пэўна, Моцарт, чымсьці ўсхваляваны. Абед цудоўны, слаўнае віно, а ты як дурань сядзіш і хмурышся.

**Моцарт:** Дык выпадак быў дзіўны. Ці не казаў табе я?

**Сальеры:** Не.

**Моцарт:** Дык слухай:

*(Моцарт і эльфы спяваюць песню)*

*Хай крые Бог, што рабства мне даслаў,*

*Каб я хоць думкай дапытаўся нават.*

*Як час праводзіш ты, я твой васал,*

*Чакаць загадаў, вось мая ўся справа.*

**Эльфы:** *(Моцарт дырыжыруе)*

Нібы табой зняволены ў турму

З табой разлучаны,

З'яднаны з горам,

Падуладны знаку кожнаму твайму,

Не папракну цябе сваім дакорам. *(х 2)*

Жыві, як схочаш, пані над сабой,

Твая ўлада жадных меж не знае.

Сама суддзя ты над сваёй бядой,

Калі надарыцца бяда такая.

Нібы табой...

*(Сальеры стае за заслонай)*

**Сальеры:** Што за страх дзіцячы!

*(Падбягае да Моцарта)*

Развей пустую думку! Лепш выпі.

*(Сальеры дае Моцарту віно з атрутай, Моцарт уздымае тост)*

**Моцарт:** За тваё здароўе, друг! За шчыры наш саюз, што звязвае двух сыноў — Моцарта і Сальеры.

*(Моцарт падае мёртвы на зямлю)*

**Сальеры:** Ты заснеш надоўга, Моцарт!

*(Адзываюцца анёлы)*

**Анёлы:** Не надоўга, не, на доўга... доўга...

*(Ідуць рэперы)*

**Рэперы:** Ён не засне, ён не засне, ён не засне...

**Сальеры:** Чаму?

**Анёлы:** Таму, таму, таму, таму...

*(Анёлы спяваюць „Ціхую ноч”, а жанчына кажа верш)*

**Жанчына:**

Па шчацэ сплыла апошняя сляза

Наступная кропля роспачы



Эльфы: Жанэта Роля, Кася Лукашук, Аня Садоўская.



Анёлы: Пятрусь Дзямянюк, Сяргей Патаранскі, Тамаш Суліма.

І затапілася ў акіяне жалю

Загінула як цень

Без вяртання

Па другой старане люстра слёз

Пабачыла яго вочы

Чорныя, таямнічыя, якія заўладалі



Рэжысёр: Сяргей Патаранскі.

Яе душой і адабралі найбольшы

Цэнны клейнат свету — жыццё.

*(Анёлы будзяць Моцарта і разам з жанчынай спяваюць апошнюю страфу „Вазьмі любоў”, песню спяваюць таксама Эльфы)*

*Вазьмі любоў, любімы мой, вазьмі.*

*Ці будзеш толькі ўзяўшы багацей?*

*Любоў мой любы зманяе людзьмі.*

*Твая і так уся была раней.*

Прып.:

*Калі любоў, любімы — уся твая.*

*Ці вінавачу я цябе ў тым?*

*Але дакор мой маю я,*

*Што пагардзіў каханнем ты маім.*

*Цудоўны злодзей, грэх дарую твой!*

*І нават той,*

*што скрыўдзіў жабрака.*

*Але любові крыўды, любы мой,*

*Для нас цяжэй чым ворага рука*

Прып.:

*Калі любоў, любімы...*

**(працяг будзе)**

# Сакавік і яго сёстры

Былі ў Сакавіка дзве сястры: старэйшая — багатая ды ганарыстая і малодшая — бедная, затое добрая і ласкавая.

Багатая жыла на далёкай Поўначы ў прыгожым палацы, а бедная — на цёплым Поўдні ў сялянскай хаце.

У багатай сястры дарагія ўборы ды самацветы ў скрынях ляжаць, а ў беднай усяго таго багацця, што прыгожыя кветкі ў садочку цвітуць ды птушкі на розныя галасы шчабечуць. І сама яна — вясёлая, гарэзлівая, ходзіць па садочку ды песні спявае.

Багатая і бедная сёстры любілі ездзіць да брата Сакавіка ў госці.

Бывае, гляне Сакавік на неба, бачыць: птушкі з поўдня ляцяць, на радзіму з выраю вяртаюцца.

— Гэта мая малодшая сястрыца да мяне ў госці едзе! — радуецца Сакавік.

І вось ужо следам за птушкамі грукоча па палях і лугах прыбраны зялёнымі галінкамі вазок малодшай сястры.

Сястра з братам сардэчна вітаецца, ласкава яму ўсміхаецца. І ад гэтай усмешкі расцвітаюць першыя пралескі.

Брат сястру вядзе ў святліцу сасновую, саджае за стол дубовы. Рады ён сустрэчы з любай сястрою.

Але тут як падзьме з поўначы халадам, як сыпане ў вочы снегам...

— Гэта старэйшая сястра да мяне ў госці едзе! — кажа Сакавік і выходзіць сустракаць багатую сястру.

Імчыць багатая сястра ў срэбных санях, на белых конях, дарогу снегам засыпае.

Ды толькі халодная ды ганарыстая яна, не ўсміхаецца брату, слова прывітнага не вымавіць.

Зірнула старэйшая сястра на сінія пралескі, якія распусціліся на праталінах, і дыхнула на іх марозам. Не любіла багатая сястра беднай — ні яе кветак, ні птушак, ні песень.

— Зараз я буду гасцяваць у брата Сакавіка! — грозна закрычала яна на малодшую сястру.

Пакрыўдзілася малодшая сястра, села ў свой зялёны вазок і паехала. Але недалёка ад'ехала, бо вырашыла не саступаць старэйшай сястры.

Яшчэ не адгасцявала старэйшая сястра, як малодшая вярнулася. І ад яе ўсмешкі гарачэй прыгрэла сонейка, расцвілі зноўку краскі.

І хоць злавалася старэйшая сястра, дыхала марозам, сыпала снегам, усё дарма — малодшая сястра гасцявала ў брата Сакавіка, аж пакуль старэйшая не паехала дадому на Поўнач.

Вось таму і кажуць, што ў Сакавіка кіпіць, як у гаршку: то сонейка прыгрэе, ручайкі пацякуць, першыя птушкі з выраю прыляцяць, першыя пралескі расцвітуць, то раптам марозам дыхне, снег выпадзе... Гэта да Сакавіка ў госці сёстры завітваюць: Вясна і Зіма.

**Клаўдзія КАЛІНА**

*„Жывая кніга прыроды”*

# Сэрца на далоні




Закончыліся агляды беларускай песні, Фестываль з гала-канцэртам, пачаўся вялікодны пост. 19 лютага эстрадны калектыў „Прымакі" яшчэ іграў на „запустах" у Бельску, 20 лютага — у Беластоку, у Беларускім таварыстве на балі, а 21 лютага даў канцэрт у Гайнаўскім доме культуры. На гала-канцэрце Фестывалю беларускай песні як заспявалі яны народную „Кума мая, кумачка", ды як выскачыла на сцэну ды адтанцавала з „кумам" тая „кумачка" ў мужчынскіх бацінках ды з заростам на барадзе — не глядзі, што ў хустцы, — дык зала аж лопала са смеху. Не дзіва, што заваявалі яны першае месца сярод эстрадных калектываў у Фестывалі.

Юрка Астапчук, кіраўнік калектыву „Прымакі", усміхаецца, калі напамінаю яму пра гэта. А каб вы бачылі, колькі маладой энергіі, натуральнай радасці жыцця эмануе з іх выступлення!

Менавіта: радасці жыцця. А спяваў Юрка ад маленства і любіў слухаць музыку. Калі я быў з бацькамі на вяселлі ці на нейкім вогнішчы, прызнаецца ён, маё месца было пры музычным калектыве. Нават і дзяўчаты так не цікавілі, як музыка.

Замілаванне да беларускай народнай музыкі ў Юркі з дзяцінства. І хтось не паверыў бы, што нарадзіўся ён у Эльблонгу. Вы не думайце, кажа музыка, у Эльблонгу людзі маюць вялікі сентымент да народнай музыкі. Там жа большасць гэта рэпатрыянты з Усходу. Я бачыў, як часта яны, спяваючы свае песні, плакалі. Але перш за ўсё я гэту музыку вынес з дому — тата і мама вельмі прыгожа спяваюць.

На Беласточчыну хлопец трапіў, калі быў у другім класе пачатковай школы. Бацька быў свяшчэннікам, і яго накіравалі на працу ў Саколку. Пасля былі яшчэ ў Заблудаве, а цяпер айцец протаіерэй Мікалай вядзе сваю дзейнасць у Гарадку, у царкве Нараджэння Прасвятой Багародзіцы.

Юрка Астапчук працуе ў Гарадку рэгентам цэнтральнага царкоўнага хору. Чатыры гады таму паехаў вучыцца ў Хрысціянскую тэалагічную акадэмію ў Варшаву. Неўзабаве закончыць яе. Можа і цяжка было б уявіць сабе стыль „disco polo" „Прымакоў" побач з царкоўнай музыкай, але ізноў Юрка мне растлумачыў:

— Калі б гэтыя гукі не плылі з майго сэрца, можа і немагчыма было б спалучыць гэтыя два віды музыкі. Адно і другое мне блізкае. Вядома, пашана да царквы на першым месцы. Але, бачыце, у царкве мы спяваем Богу, а прыходзіць чалавек дахаты і ўжо спявае сабе.

Цяжка паверыць таксама, што гэты чалавек, які спявае, іграе на гітары і клавішных інструментах — самавук. У першым класе падстаўоўкі, калі жылі яны яшчэ ў Эльблонгу, ён хадзіў у музычную школу, а пасля ўжо іграў сам.

Калектыў „Прымакі" быў створаны тры гады таму; падзагаловак: Юрка і Марэк. Дзе толькі яны не спявалі! З'ездзілі Беласточчыну. Каб было смяшней, найбольш спявалі не на Гарадоччыне, а на Бельшчыне. Запрашалі іх на самыя розныя мерапрыемствы: на агляды беларускай песні, на фестывалі, фэсты БГКТ, у Міхалове, памятаю, выступалі на імпрэзе „У пошуках легенды", былі ў Мазыры на Беларусі, дзе прымалі іх вельмі гасцінна, і яшчэ многа дзе. А на штодзень іграюць на вяселлях, забавах, ёлках. Ужо, здаецца, ігралі на ўсіх мерапрыемствах, кажа мой размоўца, на якіх толькі можна было іграць. Не ігралі яшчэ толькі на разводзе, ды і не хацелі б гэтага. Ну, пэўна, тут жа не Амерыка...

Які рэпертуар у „Прымакоў"? Ці спяваюць яны толькі беларускія песні? Не, не толькі, сцвярджае Юрка, хаця яны на першым месцы. Мы спяваем таксама і рускія, і ўкраінскія, і польскія песні. Нам хацелася б, каб славяне былі разам. Так што рэпертуар у нас вельмі разнастайны. Заходнія песні таксама здараюцца у нашым рэпертуары — італьянскія, англійскія, амерыканскія і іншыя.

Калектыў „Прымакі", хаця працуе ўсяго тры гады, выдаў ужо тры касеты: „Зорка ясная", „Цыганка" і зусім нядаўна касету „Прымакі-3. Братка беларус", якая паявілася якраз на цэнтральным аглядзе беларускай песні. Найчасцей хлопцы спяваюць у рытме „disco", яно ім „ляжыць", але Юрка лічыць, што гэта не яны, а тое „disco" скарыстала з народных песень. А калі спявае, то ўсёй душой, усёй сваёй істотай. Здаецца, выняў бы часцінку свайго сэрца і падаў бы яе на далоні слухачам.

**Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Гульні на снезе

21 лютага ў гарадскім парку ў Гайнаўцы Гайнаўскі дом культуры арганізаваў для дзяцей гульні і спаборніцтвы на снезе. Спонсарам мерапрыемства выступіў Гайнаўскі аддзел Усеагульнага крэдытнага банка. Арганізатары падбалі, каб пераможцы конкурсаў пакаталіся на паветраным шары, спецыяльна прывезеным з Беластока. Выклікала гэта вялікае зацікаўленне, бо дагэтуль у Гайнаўцы не было нагоды, каб пакарыстацца такім відам транспарту.

Ужо перад поўднем пачалі прыходзіць дзеці і дарослыя, якіх увагу прыцягнуў паветраны шар. Наймалодшых цікавіла таксама язда на фурманцы, бо цяпер і на вёсцы рэдка каня сустрэнеш. Іншыя захапляліся пажарнай машынай і пажарнікамі, якія дазволілі карыстацца некаторымі прыладамі.

Дзяцей найбольш цікавіў паветраны шар і таму шчыра яны ляпілі снегавіка, спаборнічалі на санках і змагаліся ў шматлікіх конкурсах. Аднак падуў мацнейшы вецер і аганізатары мерапрыемства заявілі, што палёт на паветраным шары стаў немагчымым.

— Мерапрыемства лічу ўдалым, бо сабралася многа дзяцей і дарослых, хаця шкада, што не атрымаўся галоўны атракцыён — палёт на шары.

**Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*



*Дзеці рыхтуюцца да язды на фурманцы.*

# Знаёмства з мастацтвам



*Кацярына Саевіч і Уршуля Такарчук на выстаўцы жывапісу.*

Выстаўку жывапісу мастацкага гуртка „Дэфармацыя" з Гайнаўскага дома культуры можна глядзець у белліцэі ўжо ад 11 лютага г.г.

— „Знаёмства" — названне, якое прыдумалі мы для выставы ў белліцэі ўжо ў мінулым годзе. Паказвалі мы раней этнаграфічна-фатаграфічныя працы Уладзіслава Завадскага, выкарыстоўваючы матэрыялы спадарства Славікоўскіх знаёмілі з амерыканскімі паркамі, прадстаўлялі варштат працы Праектнага бюро мэблі для інвалідаў і паказвалі мае белавежскія эскізы, — кажа мастак Віктар Кабац, арганізатар выставы.

На выстаўцы жывапісу найчасцей паяўляюцца нацюрморты, малюнкі жывёл, выкананыя тэхнікай тэмперы і акварэлі.

— Вучні звярталі ўвагу на кампазіцыю працы і тэхнічную падрыхтоўку. Найцікавейшыя малюнкі з выявай звяроў і птушак, — тлумачыць Віктар Кабац. — Каларыстыка ў нацюрморце спалучана з матывамі, а колер ідзе ў такім накірунку, каб паказаць найважнейшае ў бутэльцы, збанку ці іншым прадмеце. Незвычайныя колеры ў малюнках памагаюць паказаць фантастычныя формы і лепш выявіць думкі аўтараў. Гледзячы на працы вучняў трэба сказаць, што вялікая тут заслуга іх апекуна Зінаіды Якуць, якая ўмее заўважыць індывідуальнасць вучняў і выявіць іх здольнасці.

У мастацкім гуртку „Дэфармацыя", якім апякуецца Зінаіда Якуць, вучні аддаюць перавагу жывапісу. Некаторыя рыхтуюцца да практычных экзаменаў у сярэднія і вышэйшыя мастацкія школы. Удзельнікі гуртка звычайна паказваюць свае працы ў ГДК, а пасылаючы іх у іншыя месцы хочуць такім чынам прыцягнуць іншых вучняў да працы ў мастацкіх гуртках.

**Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

# Ікона св. Антонія Пячэрскага ў Рагачах

Хрышчэнне Кіеўскай Русі дало пачатак манаскаму жыццю на звязаных з рускімі ўладарамі землях. Узнікалі тады пустэльні — цэнтры хрысціянскай веры, зародкі манаскага жыцця, якія з часам ператварыліся ў манастыры. Заснавальнікам такой пустэльні быў св. Антоній Пячэрскі, патрон манахаў на Русі. Культ гэтага святога моцна паўплываў на рэлігійнае жыццё Усходняй царквы ў Вялікім княстве Літоўскім.



Антоній Пячэрскі (у міры Анціп) нарадзіўся ў 983 г. у Любачы. Ягонае дзяцінства і юнацтва выпалі на пачатак хрысціянізацыі Русі. Выхаваўся ён у набожнай сям'і і хацеў стаць манахам. Першапачаткова прабываў ён на гары Афоне, а пасля вёў жыццё пустэльніка ва ўласнаручна выкапанай пячоры на Бяроставай гары ў Кіеве. Затым у 1054 г. заснаваў Пячэрскую лаўру. Усё сваё жыццё св. Антоній Пячэрскі прысвяціў малітве і самаадданасці манаскай справе. З цягам часу весткі пра падзвіжніцтва гэтага манаха шырока разышліся па ўсёй Русі, а многія вернікі сталі паломнічаць да яго за благаславенствам. Пазней аказалася, што св. Антоній здзяйсняе цуды. Ягоныя малітвы прыводзілі хворых да аздараўлення. Перад смерцю благаславіў ён манахаў і абяцаў, што будзе безупынна прасіць у Бога ласкі для тых, хто калі-небудзь даручыць сябе ягонай апецы.

Заступніцтва св. Антонія было настолькі паспяховае, што манаскае жыццё хутка распаўсюдзілася далёка па-за межы вядомай Пячэрскай лаўры і знайшло падатлівы грунт таксама ў Вялікім княстве Літоўскім і ўсходніх акраінах Рэчы Паспалітай. Першыя пустэльні на нашай тэрыторыі ўзнікалі ў вялікіх лясных масівах Мельніцкай, Нарваўскай і Супрасльскай пушчаў. Паводле апісання аднаго паломніка ад 1858 г., у наваколлі цяперашняй Грабаркі знаходзіліся старажытныя магілкі з каменнымі надмагільнымі плітамі і славянскімі надпісамі на іх. Аўтар мяркуе, што там *верно был монастырь или обитель с пустынно-жительствующею братиею.*

Культ св. Антонія распаўсюдзілі манахі з Кіеўскай Русі, якія прыбылі ў ваколіцу Гары Грабаркі і арганізавалі там пустэльніцкае жыццё. Заснаванае непадалёк мястэчка Мілейчычы, паводле традыцыі, таксама мела свой манастыр, а суседні Рагацкі прыход — цудадзейную ікону *преподобного отца Антония Печерского*. У народзе захавалася легенда пра ікону. У двух кіламетрах ад Рагач, на ўзгорку пры дарозе ў вёску Мікулічы, на грунтах земскага ўладальніка Матусевіча расла груша. Аднойчы гэты рэлігійны і багабаязны чалавек знайшоў на дрэве ікону св. Антонія і палічыў гэты факт знакам Божай Празорлівасці ды памясціў яе ў сваім доме. Пасля на месцы з'яўлення іконы пабудаваў ён у гонар св. Антонія Пячэрскага храм, прастол якога ўстаноўлены быў на пні ссечанай грушы. Ікона стала шанавацца ўсім навакольным насельніцтвам. 10 (23) ліпеня, у дзень ушанавання памяці св. Антонія Пячэрскага, у Рагачы прыбывала мноства паломнікаў. У выніку глыбокай веры і малітваў перад іконай паломнікі атрымоўвалі аздараўленні. На гарышчы спаленай царквы знаходзіліся мыліцы, пакінутыя аздароўленымі паломнікамі.

У *Bibliografii Polskiej* Караля Эстрайхера пералічваюцца публікацыі 1786-1787 гадоў, якія тычацца двух па-суседску распаложаных мясцовасцей — Кляшчэль і Рагач. Па іх загалоўках можна меркаваць, што ўладальнікі — жыхары абодвух населеных пунктаў — судзіліся: *Produkt w interesie Anny, matki Wincentego i Tadeusza synów Matuszewiczów z Florjanem Cieszkowskim z mieszczanami Kleszczelowskimi, sprawa graniczna z Matuszewiczem*. Відаць, былі гэта патомкі земскага ўладальніка Матусевіча, які ў Рагачах пабудаваў Свята-Антоніеўскую царкву. Ягоным нашчадкам даводзілася судзіцца з Цяшкоўскімі, якія доўгі час „упраўлялі" Кляшчэлямі і ў якіх, аб чым сведчаць дакументы, адносіны з насельніцтвам не заўсёды складаліся карэктна.

Дакумент *Wizyta generalna Cerkwi Rohackiey pod Tytułem Narodzenia Maryi Panny* ад 1725 года не згадвае пра ікону св. Антонія. Чытаем у ім наступнае: *Namiesnych Obrazów pięć staroswieckich z ołtarzami nie accomodowanymi ieszcze się znajduje Obrazow moskiewskich małych osim...* У час уніі царква ў Рагачах падзяліла лёс сваіх вернікаў. Напрыклад, ушаноўванне памяці св. Антонія было перанесена на 13 чэрвеня — на дзень св. Антонія Падуанскага.

Ікона св. Антонія Пячэрскага была напісана ў візантыйскім стылі, алейнымі фарбамі на палатне памерамі 75 x 110 см. Рама з ліпавага дрэва была пазалочана. Ікона, прыкрытая срэбнай рызай, змешчана была ў іканастасе на левым кліpace, з левага боку дыяканскіх дзвярэй. Такое размяшчэнне адпавядае згаданаму *візіту* ад 1725 г.

У Вялікі пост 1872 г. прыхадская царква ў Рагачах згарэла. Ацалела толькі цудоўная ікона св. Антонія, якой не было тады ў храме. Тагачасны настаяцель прыхода Васіль Харлампові чвырашыў да Пасхі пазалаціць срэбную рызу на іконе. Царкоўны стараста і прыхаджане раілі бацюшку адтэрмінаваць рэстаўрацыю іконы, паколькі майстар не паспее выканаць заказ. Аднак 4 красавіка 1872 г. настаяцель аддаў ікону пазалотніку, а на другі дзень царква з усім абсталяваннем згарэла. Дзякуючы Празорлівасці Божай ікона знайшла месца ў новай царкве, купленай у Дубінах і перавезенай у Рагачы.

У час бежанства ікона і абсталяванне храма былі вывезены ў глыб Расіі. У царкве засталася толькі рыза ад іконы св. Антонія. Пасля I сусветнай вайны ікона ў Рагачы не вярнулася. Цяперашняя ікона — копія іконы св. Антонія Пячэрскага, напісаная манахам Архіпам з Жыровіцкага манастыра. Прападобны Антоній Пячэрскі на іконе прадстаўлены на ўвесь рост, апрануты ў схіму, якая атуляе галаву і ўсю постаць, са скрыжаванымі на грудзях рукамі. Рыза, аздобленая раслінным узорам, пакрывае ўсю ікону — цераз адтуліцы відаць толькі твар, рукі і ступні. У ніжняй частцы іконы вырастаюць вялікія кветкі, а ў верхняй — віднеецца славянскі надпіс: *С. ПРЕПО АНТОНИЙ Печер.*

Рыза ад арыгінальнай іконы ўпрыгожвае цяпер копію, якая захавалася да нашага часу. У 1938 г. вернуты быў ранейшы тэрмін шанавання святога Антонія — 10 (23) ліпеня, а ў 1953 г. быў уведзены звычай выносіць ікону на сярэдзіну храма падчас палілея.

Ікона св. Антонія знаходзіцца цяпер у горным месцы бакавога алтара — з левага боку галоўнага. Бакавы алтар быў выкананы ў 1940 г. за кошт прыхаджаніна, які атрымаў цудоўнае аздараўленне ад падучай хваробы (эпілепсіі). Цудадзейную моц праявіла тады старая рыза ад іконы.

Цяпер, як і ў мінулым, многія вернікі ідуць у Рагачы, каб цераз заступніцтва святога прасіць у Бога Айца дапамогі ў захаванні сваёй веры, а таксама падмацавання фізічных і духоўных сіл:

Святый Антоний преподобный,
Родной Отец наш дорогой,
Молись о нас Антоний добрый,
Чтоб Трисвятый Великий Бог
Всем христианам в здешнем Крае
Жить в единении помог.
Святой Антоний дивно-славный
Свой ветхий храм возобновил
И приходящий нам на помощ
Всех христиан благославил.
Будь всем родным отцом и другом
И всем являй Твою любовь,
Больных врачуй от злых недугов
И всех спасай от злых врагов.

**(агс)**

# Святкаванні ў Саборы



*Епіскап Міран пасвячае Адама Верамяевіча ў сан дыякана.*

У час свята Стрэчання Гасподняга (Грамніцаў), у Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы вернікі адзначалі дваццатую гадавіну святарства свайго епіскапа, уладыкі Мірана. У гэты дзень адбылося таксама першае ў гайнаўскім саборы рукапалажэнне ў дыяканы. З гэтай нагоды Гайнаўку наведаў таксама епіскап Люблінска-Холмскі Авель.

Гайнаўскі епіскап Міран, які адначасна ў чыне генерала брыгады з'яўляецца ардынарыем Праваслаўнага ардынарыята Войска Польскага, пастаянна жыве ў Варшаве. У Гайнаўку ўладыка прыехаў разам з капеланамі, прыйшлі і гайнаўскія святары з іншых прыходаў. На Літургіі сабралася многа людзей. Рэдка калі літургію ў Гайнаўцы ўзначальвалі ажно двух епіскапаў. Абодва іерархі выступілі з пропаведдзю.

Стрэчанне Гасподняе вядомае ў народзе як Грамніцы. Вернікі ў гэты дзень куплялі васковыя свечы, якія яшчэ перад Літургіяй асвяціў епіскап Авель, запальвалі іх падчас багаслужэння, а пасля занеслі дамоў. Гэтымі грамнічнымі свечамі будуць яны карыстацца ўвесь год.

Рукапалажэнне ў дыяканы Адама Верамяевіча гайнаўскія парафіяне прынялі з радасным хваляваннем. Першы раз бачылі яны абрад высвячэння ў прысутнасці епіскапаў і такой колькасці свяшчэннікаў.

Пасля багаслужэнняў епіскап Авель, святары і прыхаджане віншавалі епіскапа Мірана з дваццацігоддзем свяшчэнства. Уладыка Авель успамінаў падзеі дваццацігадовай даўнасці, калі ў час славутай буйнымі снегападамі зімы цяжка было куды-колечы даехаць. Тады ў прысутнасці пакойнага мітрапаліта Васілія адбывалася ў Яблачынскім манастыры рукапалажэнне ў свяшчэннікі цяперашняга епіскапа Мірана і ў дыяканы цяперашняга епіскапа Авеля. Напаміналася таксама пра побыт юбіляра ў Яблачынскім і Супрасльскім манастырах і сённяшнюю яго місію ў Войску Польскім.

Уладыка Міран з радасцю ўспамінаў гады свайго свяшчэнства, звярнуў таксама ўвагу на юбілей 10-годдзя хіратоніі ў епіскапы ўладыкі Авеля, які будзе адзначацца праз месяц.

**Аляксей Мароз**

*Фота Паўла Сідарука*

# Думалі, што не вярнуся

**Успаміны Мікалая ЯСЮКА, жыхара Трасцянкі 1921 года нараджэння.**

У 1944 годзе, калі прайшоў фронт, пачалі набіраць у армію. Хадзілі па вёсцы, падвечар па мяне прыйшлі, сказалі рыхтавацца і пайшлі далей. Я не хаваўся, бо як не сёння, то заўтра забралі б. Мама дала мне сваю шлюбную іконку Казанскай Божай Маці на *дошчачцы*, далі мне і харчы: саланіну, хлеб і яшчэ што. Загналі нас у Нарву, на пастарунак, а на другі дзень пяшком у Бельск пагналі. Два паліцыянты на веласіпедах нас каравулілі. У Бельску насупраць ратушы камісія была, там нас мо з пяць дзён трымалі. За той час тры бабы з Трасцянкі з дзяцьмі прыйшлі да нас.

Прыехалі два вайскоўцы з Седльцаў па кантынгент; мы з імі добра, даем паесці. Яны далі нам нумар палявой пошты, а мы той нумар бабам нашым. На другі дзень павялі нас на поезд; крыху ўцякло. У Нурцы два дні стаялі, а „нашы" вайскоўцы бядуюць, што меншае нас. І падбадзёрваюць, што за Бугам будуць фуры і ежа, а пакуль прыйшлося пяшком далей ісці. Пераходзім Буг, а там савецкае войска стаіць і нас не хочуць, дык мы далей пяшком у Седльцы ідзем. Зайшлі мы, а там ужо тую нашу часць набралі, але нас аднак дадому не адпускаюць, толькі вяртаюць у Морды, бо каля Мордаў фарміравалася новая вайсковая часць. Носім кроквы, капаем зямлянкі ў лесе: пасярэдзіне пераход, па баках нары. Пойдуць па салому ў вёску, і зноў некалькіх не вернецца. Зрабілі нам прысягу, хаця не ўсе мелі мундзіры. Далі ружжо, але кармілі слаба.

Нашы бабы зноў прыехалі да нас, цяпер чатыры; селі недзе на грузавік і ў Седльцы прыехалі, а там нас няма. Яны расплакаліся, але нехта ім сказаў у Морды падацца, бо там прысяга; і яны вярнуліся. А нас з лесу пад станцыю прыгналі на прысягу. Бачым нашых баб; я і яшчэ адзін. Папрасілі мы камандзіраў, а добра з імі жылі, і яны адпусцілі нас у лес. У вёсцы папрасілі мы пераначаваць...

На другі дзень адводзім баб на станцыю. Бачым — поезд да нас адыходзіць, а тады паязды як пяшком хадзілі. Затрымоўваем поезд, а машыніст высунуў галаву і пра гарэлку пытае. Затрымаўся, мы баб на платформу і так яны да Сямятыч даехалі, а далей да Трасцянкі пяшком пайшлі; была ўжо восень.

Пасля прысягі злапалі дваіх дэзерціраў і паказальны суд зрабілі: расстрэл. Адправілі нас на абед, а пасля на выкананне прыгавору; ксёндз там быў. Вызначылі дзесяцерых страляць. Адзін прыгавораны ўпаў, а другі не; падышлі *старшыя* і падабівалі.

Тыдзень пасля прысягі забралі нас у Седльцы ў дывізійную школу, я папаў у мінамётчыкі. Там было крыху лепей, бо ў будынку. Адтуль я дадому два разы прыязджаў. Адзін з Даратынкі саланіну сыну перадаў. Калі я заехаў, пайшлі мы пяшком на Варшаву; яшчэ гарэла, трупы па вуліцах валяліся. Таго, якому я саланіну вёз, у Варшаве на міне ўзарвала... Вады не было, усё разбіта, ваду з Віслы бралі.

У лютым бяруць нас на Паморскі вал. І зноў пяшком, трыццаць кіламетраў у суткі; тры дні ідзем, а чацвёрты адпачываем. За Варшавай людзі з Германіі едуць: бачу — сусед з Трасцянкі з дзяцьмі едзе! Папрасіў я камандзіра, каб дазволіў пагаварыць. Аддаў я яму сваё бялллё, бо мне на фронт навошта?..

Дайшлі да Пілы, але той Вал нібы ўжо апанавалі. Перад Пілаю карова бегала, то кухары яе злавілі і да воза прычапілі. Прайшлі ў Германію, а там у аборы кароў поўна; сярод падворка свіння ляжыць, перад вырязаны...

Далей ішлі мы ноччу, бо самалёты. У канцы сакавіка падышлі да Нысы. 16 красавіка змяняем рускіх. Раніцай наступленне, артпадгатоўка, праскочылі Нысу. Як я Нысу пераплываў, завязаў на галаве дакументы разам з мамінай іконкаю. Гонім немца; пяць дзён так гналі. Наш школьны батальён не меў свайго адрэзка і нас кідалі туды, дзе найцяжэй было. Прызначылі нас ахоўваць штаб Ролі-Жымерскага; мы радуемся, што цяпер лепей будзе...

А тут навальніца з захаду, быццам хмара, гэта фельдмаршал Шэрнер прабіваецца ў Берлін. Штаб наш уцякае, а нам загадалі акопвацца. Бачым: наша войска адступае, а немцы туды, дзе мы, не наступаюць. Падаем, бо кулі над галовамі, ляжымо і нічога не ведаем; усё прайшло бакамі, мо з дзесяць кіламетраў адбілі немцы. Нас акружылі, каб не разлезліся, але не атакавалі. Мы з акопаў у лес пайшлі: не ведаем — акружаны, ці не. Камандзір загадаў два снарады выстраліць, але ніхто не адказвае. Выходзім на палявую дарожку, у напрамку нейкай сядзібы, а немцы на нас! То мы наступленне на вёску, кустамі; ёсць раненыя. Прыходзіць пасыльны, каб адступаць, бо амуніцыі няма. Адышлі ў лес і думаем здацца, то можа ўсіх не расстраляюць... Б'е па нас хіба танк, мо з пяць снарадаў. Нашы гарматы адказалі і папалі ў той танк; калі б той танк прыйшоў — здаліся б.

Мінула некалькі гадзін, бачым: з захаду тры танкі едуць — нашы! А з імі генерал прыехаў — Вашкевіч, родам з Белавежы. Мы крыху падбадзёрыліся, дулы мінамётаў носім, хаця амуніцыі няма. А генерал пра амуніцыю пытае; і загадвае пакінуць мінамёты, абы толькі самыя выратаваліся. Танкі пайшлі на поўдзень, а мы за імі бяжымо. Толькі высунуліся мы з лесу, а немцы страляюць па нас. Папалі ў той танк, у якім Вашкевіч ехаў... Мы беглі нейкія дзесяць кіламетраў і не аглядаліся на немцаў. Спыніліся ля рэчкі каля лесу, там масток быў, а недалёка дом. А немцы ззаду падцягнулі і ў той дом уладкаваліся. І па нас пачалі біць; хто пабег, той выратаваўся, а хто астаўся, таго немцы дабівалі. Выйшлі на шашу, а па нас зноў б'юць. Мы ў кусты; асталося нас дванаццаць чалавек. Днямі ў хваёвым маладняку сядзелі, а дні вясною — як гады, доўгія!

Аднойчы мы ўтраіх выбраліся да бліжэйшай сядзібы па ваду. Падлезлі да будынкаў, заглядаем, а там саветы. Падыходзім да іх — яны ж таксама ў акружэнні. Заглядаем у дом, а там савецкія камандзіры сядзяць і п'юць. Мы ўзялі вядро вады і з клуні дзве пачкі макаронаў ды вярнуліся да сваіх. Пачынаем варыць, але выстрал там, адкуль мы вярнуліся. Праз дваццаць хвілін усе тыя рускія пруць проста на нас:

— *Удирайте, немец!*

То і мы за імі; нас дванаццаць, а іх мо з сотня. Забеглі ў лес, на паляну, там каровы забітыя з павырэзваным мясам ляжалі; немцы ўжо нас не гналі. Мы дванаццацёх аддзяліліся ад саветаў, нарэзалі з кароў мяса і пайшлі далей. Важакі групы мелі план перайсці да другога фронту, да амерыканцаў, але не ўдалося. Днямі сядзелі ў балоце, хаваліся, а ноччу лазілі. Знайшлі тартак, вадзяны млын і хлеў, у якім свойскія козы былі; вымя ім распарала. Падаілі мы тых коз, а адну зарэзалі і ў будынку млына варылі мяса з яе і *картоплі*. Іншы раз знайшлі мы нейкую аліву і муку, змяшалі адно з другім і так елі. Часам жыта тузалі, кару елі, траву прабавалі, лупіны ад бульбы...

Ідзем раз лонкаю, каб да фронту. Чуем: *Halt!* Мы ходу! А яны па нас. І толькі дзесяцёх нас асталося... Чуем гармошку — пойдзем, пабачым. Доўга не было нашых разведчыкаў, але вяртаюцца і кажуць: нас вызвалілі. Было гэта 3 мая. Вярнуліся мы ў сваю часць.

Пасля перавялі нас у Чэхаславакію. Спаткаў я там свайго аднавяскоўца, які з акружэння вырваўся і напісаў у Трасцянку, што ён выратаваўся, а мяне няма. І ўжо ў вёсцы ўсе думалі, што я не вярнуся; адно дзіця было ў мяне, а жонка яшчэ другога спадзявалася... І я напісаў пад канец вайны аж пяць пісем дадому, думаў: хаця адно дойдзе. Прыйшлі ўсе пяць. Мае сямейнікі свіней пад Анцутамі пасвілі, то сусед на каня сеў і завёз адразу.

У Чэхаславакіі стаялі мы аж да жніва, а тады адправілі нас у Кросна: хто пяшком, хто роварам, а хто і фураю. З Кросна ездзілі ў Балігруд, Санок — на „банды": вывозіць украінцаў. Бядота там была: у адной вёсцы пяць сем'яў усе на адзін воз змесціліся. Адну вёску вывезлі, а ў другой толькі старыя і малыя, за рукі трымаюцца, не хочуць выязджаць. У трэцяй вёсцы ўсе ў лес уцяклі, але недалёка і мы пазбіралі іх. Тады ўкраінцы нажымалі на нас, але як злапалі, то пускалі і казалі, каб іх не чапаць. Мяне дэмабілізавалі восенню

[*працяг* ☞ **11**]

# Найму хату нашым людзям

— Найму хату добрым людзям, найлепш нашым, — вырашыў Іван Ванякоўскі. Вярнуўся пад старасць у вёску, сваю трохпакаёвую кватэру ў цэнтры Беластока хацеў пакінуць наймалодшаму ўнуку, які студыяваў у сталіцы. Утрымаць такую хату за пенсію цяжка аднаму, нават калі яна, тая пенсія, немалая, бо ваеннага ветэрана. Абы людзі хоць чынш аплацілі і крышку больш далі, каб які рамонт час ад часу зрабіць — вядома, рэчы, як і людзі — псуюцца.

Узяў Іван на кватэру маладое сужонства Агату і Янка Суркоўскіх. Занялі яны два пакоі. Трэці хацеў гаспадар зачыніць на ключ, для сябе. Прыедзе раз у месяц, пенсію ўзяць ды аплаціць хату... „Не зачыняйце пакоя на ключ! — параіла Агата. — А што будзе, калі, напрыклад, батарэя лопне ў гэтым пакоі? Мы ім карыстацца не будзем. А і кніжачку пакіньце, самі ўсё ўплацім". — „Ну, добра, але не заглядайце сюды. Тут мае рэчы хай ляжаць. Тут усяго няшмат, але ўсё ж... Калі буду прыязджаць па пенсію, пазваню раней".

Кватаранты паводзілі сябе беззаганна. Суседзі не наракалі. Праўда, час ад часу гучала там музыка, але не нашмат гучнейшая ад дэцыбелаў далятаючых з цэнтральнай вуліцы Беластока. Гаспадар прыязджаў раз у месяц, чакаў пісьманосца з пенсіяй, аглядаў хату ці дзе што не патрабуе рамонту. Было досыць чыста. Праўда, у Агаты з Янкам надта ж рэчаў многа паявілася — ну, вядома, маладыя, нажываюцца.

Аднойчы прыехаў Іван, не пазваніўшы. Трэба было лекара яму наведаць. З кухні далятаці прыемныя пахі. Іван скінуў куртку, з цяжкасцю знайшоў свае шлёпанцы, пайшоў у ванную памыць рукі. Зайшоў на кухню. Там завіхалася нейкая чарнявая цётка ў халаце.

— Я — Гаяна, — прадставілася жанчына. — Ты сюды? А колькі табе прыходзіцца на дзень?

Ванякоўскі пачухаўся па патыліцы, усеўся за сталом.

— Ну, хопіць мне 30 злотых на дзень, каб аднаму пражыць. Не раскашэлішся. Усё купіць трэба. У вёсцы танней выходзіць, не тое, што ў горадзе.

— Нам прыходзіцца па 20 злотых ад чалавека. Галоўнае, добрае месца.

— Гэта як лічыць. У Беласток з мае вёскі даезд добры, — падзівіўся Іван, як Гаяна спраўна рэжа хлеб на бутэрброды.

— Іван, частуйся. Хочаш супу? Наварыла на дзесяць чалавек, то і яшчэ аднаму хопіць. На свежай баранінцы, еш.

— А што, вы ў госці прыехалі?

— Э, тут мы ў Беластоку ўжо свае! Курсіруем амаль два гады, роўненька як „Чэленджэр"! З гандлем горш цяпер ідзе, не тое, што раней. З базараў нашых ганяюць. Добра, што маем дзе жыць, спакойна тут. Але ж дзяруць з нас гаспадары! Уяві сабе — 20 злотых ад асобы! За суткі! Але бяспечна сябе адчуваем, зусім як у роднай хаце. Нас цяпер тут дзесяцёра.

Іван утаропіўся ў Гаяну:

— Вы што, вы тут жывяце?!

— Месца пастаяннае, добры даезд. Нават ключы маю. Толькі ў адзін дзень нам загадалі Агата з Янкам хату пакідаць. Чаму? Мы сумленныя, плацім ад рукі. Але пашпарты спісваюць. І маюць рацыю — так павінна быць: не вядома ж, каго ўпускаеш у дом. Але маглі б ужо зрабіць крыху рамонту, тараканы бегаюць. За апошні месяц зарабілі ж на сваім гатэлі амаль 60 тысяч! Падаткаў жа ж не плацяць. Маглі б крыху апусціць цану...

— А дзе ж яны жывуць самі?

— Купілі сваю кватэру. Пэўна, за заробак на гатэлі, бо, здаецца, самі нідзе не працуюць. Янак круціцца пры рынку, але што там робіць — не наша справа.

Івану бутэрброд стаў у горле косткай.

— А ты што, брат, робіш? — заглянула яму какетліва ў вочы нестарая армянка.

— А от, на пенсіі. Ветэран.

— О, як на вэтэрана, зусім добра трымаешся. Мо ўдавец?

— Ага. А што, маеш для мяне нейкую дзеўку? Люблю смуглявых.

— Ну, Іван, то можам зрабіць інтарэс. Возьмеш фіктыўны шлюб са мной, добра табе заплачу. Праўда, я яшчэ не развялася, але гэта ў нас хутка. І хутка магу з табою развесціся, не бойся.

— Фіктыўны?! Ты мне падабаешся.

— Неразумны ты, Іван. Калі можна зрабіць інтарэс, там няма сентыментаў.

— Кажаш, Гаяна, плаціш заўсёды рэгулярна?

— У мяне, Іван, як у банку. І парадак трымаю, чысціню люблю.

— Ну, добра. Тады ўсе рахункі рэгулюй са мною, бо я тут гаспадар. Вось мой пашпарт, ордэр на кватэру. Зараз іду змяніць замкі. А ў разліку пагаворым яшчэ мы з табою, Гаяна, як сівы беларус з чарнявою армянкай.

Давялося Івану пасядзець у сваёй хаце да раніцы, чакаючы, калі паявяцца „гаспадары" па грошы. Было весела і прыемна — кампанія частавала яго арыгінальным каньяком. Кампанія не абы-якая: трох медыкаў, два шафёры (адзін — Гамлет!), былая акцёрка, двух былых студэнтаў — адзін філолаг, другі матэматык, прадаўшчыца ну і Гаяна, бухгалтарка. Культурныя людзі, якіх бяда і патрэба загнала ў далёкі край. Нагаварыліся, наспяваліся. Раніцай, пакуль рушылі на рынак, завітала Агата.

— Гаяна, давай грошы! — крыкнула яна ад парога і енкнула, убачыўшы гаспадара: — А... гэта вы?! Адкуль вы сёння тут?!.

— Замкі зменены. Сядай, мілая, будзем разлічвацца. Гамлет, Рафік, вытрасайце з гэтай сукі даўгі.

На жаль, не ўдалося разлічыцца Івану Ванякоўскаму з „маладой спакойнай сям'ёй нашых людзей". Кватэру ж уступіў ім Іван без прапіскі. Грошы, зробленыя на „гатэлі", паспелі ўкласці яны ў сваю хату ў сучасным квартале горада.

Гаяна Івану зусім даспадобы. І варта мець знаёмую добрую сумленную паўнагрудую бухгалтарку, якая разбіраецца ў інтарэсах.

**Лукаш Баравіцкі**

*(прозвішчы зменены)*

# Шчодрыя водаправоды

У Беластоцкім водаправодным прадпрыемстве ў пачатку гэтага года Вярхоўнай кантрольнай палатай (НІК) праведзены быў кантроль. Пра выніки праверкі паведамлялі беластоцкія штодзёнкі і мясцовае радыёвяшчанне. На маю думку, рэзультаты кантролю вельмі красамоўныя і паказваюць на бестурботнасць кіраўніцтва фірмы ў гаспадаранні публічнымі фінансамі. Замест дбаць пра якасць вады ды абніжэнне коштаў яе здабывання, фільтравання і пастаўкі, прадпрыемства павышае цану вады спажыўцам і выступае ў ролі шчодрага спонсара шматлікіх мерапрыемстваў і то не толькі на тэрыторыі нашага ваяводства, але і па-за яго межамі. Напрыклад, у мінулым годзе Беластоцкія водаправоды перадалі ў якасці рэчавых і грашовых ахвяраванняў для таварыстваў, фондаў, спартыўных клубаў, кіруючага горадам клуба радных „Еднасць”, „Салідарнасці”, каталіцкіх і праваслаўных прыходаў каля 100 тыс. зл. Грашовую падтрымку атрымала нават рымска-каталіцкая парафія ў Катавіцах, хаця ні паводкі, ні землятрусу ў гэтым рэгіёне тады не было. А можа там вернікі не так людна наведваюцца ў касцёлы, што ажно тамашняму кліру патрэбна вонкавая фінансавая падтрымка. А можа гэта жэст удзячнасці ў бок радзімы цяперашняга беластоцкага мітрапаліта?

Нават калі такое спонсарства змяшчаецца ў рамках закона, то кіраўніцтва прадпрыемства ў першую чаргу павінна дбаць пра сваіх кліентаў, а пасля займацца харытатыўнай дзейнасцю. **Ю. П.**

# Нарваўскія пажарнікі

Гмінныя самаўрадавыя ўлады ў Нарве многа ўвагі адводзяць дабраахвотным пажарным камандам, бо і будынкі ў гміне пераважна драўляныя, і многа тут лясоў, арэал якіх з году ў год хутка павялічваецца. У гміне 12 дабраахвотных пажарных каманд, у якіх дзейнічае 278 добраахвотнікаў. Пажарнымі аўтамашынамі карыстаюцца пажарнікі з Ласінкі (1) і Нарвы (2), Адрынок (1), Тыневіч-Вялікіх (1) і Трасцянкі (1 самаход). Нарваўская каманда ўключана ў дзяржаўную сістэму выратавання. Астатнія пажарныя каманды (у Бялках, Градочне, Крыўцы, Іванках, Пухлах, Васьках, Сацах) распараджаюцца пажарнымі помпамі М-800 ды ўсімі для іх прыладамі. Тут трэба адзначыць, што прафесійныя пажарнікі з Гайнаўкі добра ацанілі ўсе каманды ў Нарваўскай гміне. Ад самаўрада нагляд за пажарнымі камандамі вядзе Пятро Паўлоўскі, старшынёю Гміннага саюза добраахвотных пажарных каманд з'яўляецца Уладзімір Дудзіч, а гмінным камендантам — Віталь Садоўскі.

**Мікалай Лук'янюк**

# Тэлефонная недасканаласць

З пачаткам студзеня г.г. у Чаромсе пачала працаваць АТС. Тэлефоны з ручкай заступілі мадэрныя апараты і здавалася ўжо абанентам, што іхнім клопатам настаў канец. Памыліліся! Многія засумняваліся, калі атрымалі рахунак за тэлефонныя размовы.

— Раней мы атрымоўвалі рахунак з пералікам усіх размоў, — кажа адна з чаромхаўскіх жанчын. — У рахунку быў паказаны нумар абанента з якім праводзілася размова, час размовы і яе кошт. Цяпер у рахунку пазначана толькі агульная сума і кошт імпульса. Таму цяжка разабрацца, ці рахунак палічаны правільна, ці мо камп'ютэр памыліўся і прыпісаў нейкую суму.

Аддзяленне сувязі можа выдаць дэталёвы рахунак, але за яго трэба заплаціць 5 зл. Не кожнаму захочацца даходзіць правоў, асабліва калі справа ідзе пра невялікія грошы. Таму людзі плацяць без лішніх слоў прад'яўленую сувязістамі суму.

А ці нельга было б у рахунку напісаць некалькі лічбаў больш, напрыклад, агульны лік імпульсаў, колькасць і кошт міжгародніх размоў ды агульную суму. Чалавеку стала б тады вядома, куды ён званіў і колькі за гэта трэба яму заплаціць.

На маю думку, такое вырашэнне справы карыснае было б абодвум бакам.

**Уладзімір Сідарук**

# Думалі, што не вярнуся

[10 ☞ *працяг*]

1945 года, а пазней то ўжо там вельмі жорстка абыходзіліся.

Нядаўна я з'ездзіў у Белавежу, на радзіму генерала Вашкевіча. Там пра яго ўспамінаюць без захаплення, бо некаторыя думаюць, што яго рускія прыкончылі, бо ён быццам здрадзіў. Але гэта няпраўда, я сам бачыў, як ён загінуў. Мы яму ўдзячны, бо ён нас ацаліў. Мы ўжо мелі здацца і каб здаліся, то нас немец пабіў бы, бо не меў куды ў няволю браць!

* * *

Мікалай Ясюк захоўвае, вядома, свае памяткі. Сярод іх ёсць і такая, пра якую ён не ўпэўнены: паказваць, ці не. Намовіў я яго; вось яна:

„Rozkazem Nr 340 z dnia 23.04.45 MARSZAŁEK STALIN WYRAŻA WAM kapr. Jasiuk Mikołaj syn Mikołaja Podziękowanie za udział w walkach przy forsowaniu RZEKI NISSY i zdobyciu miast: ROTENBURGA, NISKI, OBERLICHTENAU, KAMNIC i innych miejscowości. 30.04.45.”

Нечага бянтэжыцца прозвішчам Сталіна на дакуменце, бо не за яго змагаліся мільёны салдат падчас вайны, а за сваіх суродзічаў, каб у жывых асталіся. І Сталінава падзяка — справядлівая!

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Некультурныя курыльшчыкі

Закон аб парадку ў сродках чыгуначнага транспарту забараняе курыць у вагонах. У цягніках, якія курсіруюць на адлегласць да 200 км няма вызначаных месцаў і вагонаў для курэння. Аднак рэчаіснасць мае іншую. Хопіць паехаць любым цягніком з Чаромхі ў Беласток або назад, дзе амаль кожны састаў поезда загружаны пасажырамі па апошняе месца. Едуць жанчыны з дзецьмі, хворыя людзі, школьная моладзь. І выходзіць на калідор асобень і зацягваецца дымком. Не звяртае ён ўвагі ні на правапарадак, ні на людзей, якіх атручвае, бо ведае, што яму ніхто нічога не зробіць. Чуецца бездакорным! Праўда, кандуктар не пахваліць яго за такія паводзіны, але і не аштрафуе, бо нельга яму караць пасажыра. Мне здаецца, што дзяржаўная чыгунка павінна больш дбаць пра сваіх кліентаў. Трэба адмяніць мёртвы закон аб курэнні і вызначыць месца для курэння або шанаваць закон і караць вінаватых.

Хачу прытым адзначыць, што найбольш парушаюць правапарадак у цягніках самі чыгуначнікі! А мо так адказныя чыгуначныя службы нешта прыдумалі б у гэтай справе? Разумею, што маем дэмакратыю, у якой кожнаму дазваляецца рабіць тое, на што ён мае ахвоту, аднак трэба разумець і іншага чалавека і шанаваць яго правы. Пра тое мы і павінны падумаць прыкурваючы папяросу.

**(ус)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Ой, Астроне, узлаваў ты мяне, так лісліва называючы майго валацугу: „Сцяпанка”. А казала ж я яму: у „Ніву” не пішы, сораму ад людзей не абярэшся! Ды дзе там, паслухаецца ён табе... Ну, і напісаў.

Пачала я чытаць твой адказ у восьмым нумары ад 21 лютага, у думках ужо табе шчыра дзякавала, што аблаяў гада. Вось, думаю, нахай ён толькі дахаты вернецца, ужо я яму дам дык дам. Ідзі, скажу, адкуль прыйшоў! Пэўна, дзесь на працы з паненкай знюхаўся, ёсць там у іх адна такая. А хай яна табе і абед варыць, узяло мяне не на жарты, дык аж адсунула з агню каструлю з недаваранам супам.

Але адказ твой, Астроне, чытаю далей. А Божачкі! Гэта ж я яго непатрэбна лаяла. Добра, што мой стары яшчэ не прыйшоў, бо ж магла б я і валкам яго па галаве агрэць на прывітанне.

Высветлілася ў далейшай інтэрпрэтацыі сну, што гэта не баба яго апутала, а іншыя клопаты на бедалагу зваліліся. І шкада мне яго стала. Я хутчэй вугалю ў агонь падсыпала, каструлю назад на паставіла. Думаю: нахай варыцца, прыйдзе стары, будзе што цёплага даць, каб душу абагрэць.

А як прыйшоў Сцяпанка, дык я яго накарміла, а пасля толькі „Ніву” яму падсунула ды кажу: не хвалюйся, з клопатамі тымі то мы разам змагацца будзем. Пацешыла старога.

А ў тую ж ноч мне сніцца, быццам мы з мужам у нейкай казённай ні то хаце, ні то бараку. Збудавана гэта так, што там многа калідораў. Бачу, стаіць знаёмая дзяўчына. Падыходзім мы да яе, а яна кажа: „Вы памыляецеся”. Я пайшла калідорам і ўжо не ведаю, як увайсці — з аднаго ў другі трапляю, у трэці, нікога не відаць, але бачу нейкага мужчыну. Я спужалася, уцякаю і спаткала тую дзяўчыну, а яна мне кажа: „Мужа вашага б'юць!” Я пабегла шукаць яго. І бачу, ляжыць ён ніцма на нейкім пісьмовым стале. Думаю: мёртвы! Я да яго, а ён адзываецца. Я зноў пайшла шукаць дапамогі. Іду, іду і раптам бачу ў канцы калідора — брат мужа (даўно памёр) на нейкім пісьмовым стале сядзіць. Я ўздрыгнулася ад неспадзеўкі. А ён да мяне — хадзі, хадзі, я табе штосьці скажу. Апрануты ў касцюм, у якім яго пахавалі. Выглядае элегантна, ды з твару такі малады, якім памёр. Толькі валасы пасівелыя, ясныя, высока зачэсаныя яшчэ ўпрыгожваюць яго. Я кажу: „Мы так даўно не бачыліся, а ты зусім не змяніўся...” А ён: „У нас не старэюць”. І пачынае гэтае абяцанае гаварыць. Я кажу, пачакай, я вазьму паперу і даўгапіс і запішу, бо так забудуся. Знайшла я нейкую картку і даўгапіс. Палажыла на пісьмовым стале, дзе ён сядзеў. Ён мне гаворыць, а я стараюся запісаць. Ды не пішацца. Нейкае іншае пісьмо выходзіць, я не разумею таго... і канец сну.

Каб не было мала таго ўсяго, то раніцай прыходзіць мая суседка з блёку і кажа: „Снілася мне, што вы не тут жывеце, але ў сваім асабняку. Дом вялікі, вельмі прыгожы. У сярэдзіне абсталяваны прыгожай мэбляй. Стаю і захапляюся, такая прыгажосць!”

**Сцепаніха**

Даражэнькая Сцепанішка! І праўда, бадай разам з мужам вы будзеце рашаць супольныя праблемы. У вашым жыцці будуць вялікія цяжкасці. Аб гэтым гавораць тыя калідоры, якія, быццам нейкі лабірынт, прадсталі перад табою.

А тое, што білі твайго мужа, нават удакладняе справу: будзе смутак у сувязі з нейкай стратай ці хваробай. Твой швагер-нябожчык хацеў табе нешта параіць (можа паспакайнела б у вас), але ты нават не дала рады запісаць тое, што ён табе гаварыў.

Суседчын сон, на жаль, гаворыць пра нейкі падман, здраду. Прабач, даражэнькая.

**Астрон**



# Дзіравыя дашкі

На аўтобусным вакзале ПКС у Гайнаўцы чатыры дашкі, але апошнім часам два з іх вельмі дзіравыя. Дзе тады маюць падзецца, куды схавацца пасажыры, якія чакаюць „свайго” аўтобуса, калі ідзе снег або дождж?

І так, яны вымушаны чакаць у непагадзь пад дажджом або снегападам. Як пад адкрытым небам. Дзе тады дбайнасць бельскага прадпрыемства ПКС пра сваіх пасажыраў? А білеты, нябось, зноў падаражэлі. **(гай)**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

***Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1999 r. upływa 5 marca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



Мал. Алега КАРПОВІЧА

**Фрашкі пра нашых**

### *Двухногаму дысідэнту*

Хто там правую нагу ўжывае,
Калі крочыць хоча сам наперад?!
Каб зрабіць два крокі, абедзвюма ступае?!!
Леваю ідзі, калега, бо — халера! —
Не падам рукі табе я прынцыпова,
Хай ты нават сябра мой найлепшы!
А каб размаўляць?! Не будзе мовы,
Хоць усе **голас** маем ад „тутэйшых"!

**Вандал Арлянскі**

**Пародыі**

### *Такое жыццё*

*Не знаю.*
*Нічога не ведаю.*
*Сядзім сабе,*
*Абедаем...*

***Міхась ШАХОВІЧ***

Сядзім сабе, абедаем,
Гарэлку дружна п'ем.
Нічога мы не ведаем
І абы-як жывем.
Сядзім сабе, вячэраем,
Гарэлку дружна п'ем.
А раніцай паснедаем
І зноў сабе нальем.

**Сяргей Чыгрын**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. Мулк, індыйскі пісьменнік (нар. у 1905 г.), 4. Іаган, першадрукар з Майнца (1396—1468), 6. парадная гасцінная зала, 7. даўняе сялянскае верхняе адзенне з тоўстага сукна, 9. зяць Магамета, 11. аўстралійскі скакун, 12. горад у Англіі з універсітэтам заснаваным у 1214 г., 13. ківок, 15. адміністрацыйная адзінка ў Манголіі, 17. маленькая рыбка, якая нядаўна выйшла з ікры, 18. паўночная частка Вялікабрытаніі, 19. пшанічны хлеб выпечаны ў выглядзе замка з дужкай.

**Вертыкальна:** 1. адміністрацыйны цэнтр Алтайскага краю, 2. імя Луцкевіча, беларускага незалежніцкага дзеяча (1884-1941(?)), 3. знак задыяка, 4. вавілонска-асірыйскі герой, легендарны ўладар горада Урук, 5. схільнасць да крывацёку ад паніжэння згушчання крыві, 6. чарцёж, апісанне ў агульных рысах, 8. задняя частка шыі, 9. рака на паўднёвай граніцы Чада, 10. біблейскі пакутнік, 14. дзяржава з Тэль-Авівам, 16. пляцоўка для катання на каньках, 17. Імрэ, венгерскі пісьменнік (1823-64).

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 4 нумара**

**Гарызантальна:** ядазуб, Маракеш, чардаш, лемпіра, ранжыр, тэраса, кароўка, філіял, анероід, Каканд.

**Вертыкальна:** амулет, Крамер, Аклінс, яшчар, Акран, Ушачы, акраец, жаўток, Руанда, эпіка, Авіла, аклад.

Рашэнне: **Наталля Арсеннева**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Наталлі Герасімюк** з Гайнаўкі і **Юрасю Сцяпанаву** з Віцебска.

# *Прыгуменнае цырыканне*

Напачатак спачатку. Калі вельмі малады чалавек пачынае гаварыць, ён у нас спачатку намагаецца сказаць *тата* сваёй матулі. Але вось у такім Кітаі такі малакасос тую ж самую называе *baba*. Апошнім словам іранскі жэўжык называе бацьку. Магчыма, што недзе на свеце словам *baba* нехта называе і дзеда. Усяк бывае: раз жук мычыць, раз карова лятае. Напрыклад па-за Іранам бацьку называюць, як у нас, *tata*, або, як *на общепонятном языке — рара*. Што край, то абычай. А, гаворачы пра згаданых жэўжыкаў, — дзе яны гуляюць? У нас, напрыклад, на *пругмені*. Апошняга слова дарма шукаць у нашых слоўніках. Яно там, гаворачы словамі нашай польскай крытык творчасці нашых „белавежцаў", *poza krytyką*, або, карыстаючыся яшчэ ранейшай тэрміналогіяй, *poza cenzurą*. Аднак у нашым народзе тое апальнае слова жыве. І думаю, што амаль кожны чытач гэтага тэксту ведае яго значэнне, а калі хто і не ведае, тады паведамляю, што гэта *прыгуменне*, толькі крыху інакш сказанае. Ну а *прыгуменне* — гэта пляц *пры гумне*. Там аднак, дзе ўжываецца слова *пругмень*, слова *гумно* наогул не ўжываецца; там наш народ заміж яго карыстаецца словам *клуня*, бо першае слова выклікае падобную асацыяцыю, як у палячак пакупка запалак у, напрыклад, Маскве, якім пыходзіць *на ум*, што яны не з фабрыкі. А слова *гумно*, як паведамляюць этымолагі, выводзіцца ад звароту *hu-тпщ*, які абазначае месца дзе *hu* мнуць — малоцяць — збожжа. Бо даўно-даўно збожжа малацілі не малатары, толькі *hu* — так калісь-калісь старажытнейшыя шумерцы называлі кароў, гукапераймаючы ад тых кароў іх „мову"; яшчэ і цяпер у В'етнаме ці Індыі збожжа малоцяць каровы. І тое месца, абгарадзіўшы і накрыўшы, нашы браты-славяне ў большасці назвалі *гумном*, апрача, вядома, многіх нашых і палякаў продкаў, якія, тых палякаў продкі, далі таму месцу назву *gитпо*. Вынікае з гэтага, што продкі эндэкаў называлі карову *gu*. А вось немцы нават сёння называюць карову *Kuh*, англічане — *cow*, а манголы — *йее*. Што край, то абычай: відаць і каровы ведаюць гэтую ісціну і ў Славакіі ці Чэхіі „гавораць" *hu*. у Польшчы — *gu*, у Германіі — *ku*, а ў нас — *mu*. І гэтакім чынам узнікае тут вывад, што каровы маюць нацыянальнасць! І калі возьмем пад увагу тэарэму аднаго нашага даследчыка *Hama sapiens*, што хам не мае нацыянальнасці, тады даходзім да чаргогага вываду: каровы — гэта асобені культурныя! І гэтакім шляхам я, — просты постмужык, — аб'яўляю пра кароў такую ж ісціну, як пра птушак вучоныя арнітолагі: птушыная мова тэрытарыяльна розная — гэтак жа як і ў людзей; відаць і птушкі некалі будавалі сваё нейкае вавілонскае гняздо. Птушкі, такія ж хітруны, як і людзі: неўзабаве ў адной англійскай радыёстанцыі папугай будзе вяшчаць прагноз надвор'я; цікава, ці здолее гаварыць ён там праўду, ці будзе гаварыць пра надвор'е тое ж, што і людзі.

Можа тут узнікнуць пытанне: ці ў школах навучаюць дзетак, што птушкі карыстаюцца культурнаю мовай? Агульнага адказу на гэтае пытанне я не ведаю, аднак для некаторых нацыянальнасцей адказ тут станоўчы. У не вельмі даўнім сербскім падручніку для другакласнікаў усё пачынаецца з апавядання, як гэта птушкі за акном, за якім сядзіць (тады) прэзідэнт Ціта, спяваюць найпрыгажэйшыя песні ўсенароднаму любімцу. І хаця ў маёй памяці не захаваліся ўсе, напрыклад саракасямігадовай даўнасці, дэталі, усё ж такі здаецца мне, што і ў нас не было тады горш чым у нашых югаслаўскіх братоў-славян, бо ж нельга дапусціць думкі, што нашы птушкі былі больш бескультурныя за іншых і не былі свядомыя велічыні і нашага тадышняга бацькі народаў. І хаця многія народы асірацелі, мы, беларусы, можам ганарыцца тым шчасцем, што ў наша ваконца засвяціла сонца і бацьку народа мы маем! І напэўна і яму за акном спяваюць птушкі: *Салаўкі, Курапаты, Дразды*, ці звычайныя нават крумкачы. Цікава толькі, якія яшчэ *чшабечуць* па-беларуску, а якія ўжо па-старшабрацкаславянску *чирикают*.

**Адам Маньяк**

# *Кароткі курс параноі*

**Чым вучнем быў Сталін**

БСЭ называе Сталіна актыўным змагаром за ажыццяўленне ленінскіх запаветаў (1974). І раптам — тыран! Мазгі яму нечакана закупорылі пітэкатромбы? Нічога падобнага. Хлусіць БСЭ. Грубы каўказец вучыўся ў іншага настаўніка — таго, што вывёў у вялікія сыны шалапутнага македонца. Сталін ажыццяўляў запаветы Арыстоцеля — таго, якога Маркс назваў найвялікшым мысляром старажытнасці.

Якімі ж зёлкамі напаіў славуты грэк памежнага горца? Тымі ж, што і Аляксандра Вялікага. Вось тыя зёлкі:

„Тыран павінен знішчыць выдатных людзей у краіне, таму што яны могуць стаць небяспечнымі. Ён павінен закрыць усе клубы і асцерагацца ўсяго, што здольна абудзіць мужнасць сярод яго падданых. Ён не можа дапусціць існавання аб'яднанняў, у якіх абмяркоўваюцца складаныя пытанні. Тыран павінен сачыць за тым, каб яго падданыя як мага менш сустракаліся адзін з адным, ён павінен вынішчаць дружбу паміж імі і мецъ скрозь шпіёнаў, якія павінны не толькі падслухоўваць, пра што падданыя гавораць, але і сачыць, каб тыя не выказвалі сваіх поглядаў і наогул іх не мелі".

Цяпер вам ясна, хто выспеліў Сталіна? Чаму ж тады гісторыкі ўтойваюць кніжную ісціну? Арыстоцеля не чыталі? Дапускаю такую магчымасць. Дык на гэтым палетку сярэдняевечча, удзельныя княствы, свае настаўнікі і тыраны. Латышонак тыраніць разбойных балахоўцаў, Туронак — сябрукоў Вільгельма Кубэ, Мірановіч — камуністаў („нашых хлопцаў"). Неахопнае не ахопіш. Праўда, імкнецца гэта здзейсніць Яновіч, але ён яшчэ да Арыстоцеля не дабраўся.

А тут і агульная хвароба — гісторыкі паказваюць не рэальныя з'явы, а ілюзорныя. Кожны перарабляе падзеі на свой капыл. Усё, каб аплесці нас сваім ачмурэннем.

...

Узбаламучаны век. Сталін, каб яму сярай адрыгнулася, тварыў пекла, а мы думалі — будуе рай на зямлі. Цяпер, грэючы ў пекле азяблыя косці, смяецца з нас, задаволены.

Уразумляў, каючыся

**Сідар Макацёр**

PS. Рогат пекла: беларускі кацёл — вайна „сваіх" са „сваімі".

***Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка***

**Саганная**

Сядзіць Сталін у сагане,
Падспеўвае сатане:
— Я тыран і ты тыран,
Садавіся ў саган.